 


# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 11 (942) ГОД XIX БЕЛАСТОК 17 САКАВІКА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


## Беласточчына – Варшаве

Хтосьці разумны прыдумаў, каб у сталіцы нашай краіны наладзіць „Панараму XXX-годдзя“, у рамках якой свае дасягненні прадставілі б усе ваяводствы ПНР.

Першым выступіла Люблінскае ваяводства. Люблін, як вядома, быў першай пасляваеннай сталіцай Польшчы. Пасля Люблінскага прыйшла чарга на Беластоцкае ваяводства. Тут „гістарычнае“ сплялося з „алфавітным“. Амаль уся цяперашняя Беласточчына, асабліва яе паўднёва-ўсходняя частка, належаць да тых нешматлікіх раёнаў краіны, якія былі вызвалены сапраўды 30 гадоў таму назад.

Беластоцкія дні ў „Панараме XXX-годдзя“ распачаліся ў суботу 16 лютага, а закончыліся ў чацвер 28 лютага. З сустрэч і размоў склалася ў мяне такое ўражанне, што дзякуючы нашаму ўдзелу ў „Панараме XXX-годдзя“ варшавяне і жыхары іншых раёнаў краіны паўторна праводзілі рэвізію сваіх поглядаў і ўяўленняў аб Беласточчыне. Гавару *„паўторна“*, бо першая такая *„рэвізія“* адбылася ў мінулым годзе з нагоды Цэнтральных дажынак.

Найперш я наведаў выстаўку „Беласточчына сёння і заўтра“. У прасторных залах Палаца культуры і навукі розныя прадпрыемствы Беластоцкага ваяводства выставілі свае найлепшыя вырабы і тавары, а каляровыя планшэ і графіка прыносілі дадатковую паясняльную інфармацыю. Знайшлася тут гайнаўская мэбля, фастаўскія тканіны, чорнабеластоцкія халадзільнікі, штучнае футра з беластоцкай „Біруны“, зборачныя элементы да тэлевізараў з беластоцкай „Тэльзы“, мясныя і малочныя вырабы спажывецкай прамысловасці і шмат іншых тавараў; прыгожа падсветленыя каляровыя здымкі паказвалі месцы, дзе на Беласточчыне можна прыемна адпачыць. Выстаўку гаспадарчых дасягненняў папаўняў паказ народнага ткацтва, а перш за ўсё цудоўных сакольскіх дываноў. Ткачыхі з

(Працяг на стар. 4)




*Магазін „Беластоцкая зямля“ ў Варшаве.*




## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР

Урэшце выйшаў Беларускі каляндар на 1974 год і цяпер трэба прыкласці максімум намаганняў, каб як найхутчэй трапіў ён у рукі чытачоў. Каляндар складаецца з чатырох частак: каляндарыума, раздзелаў „Учора, сёння, заўтра нашай краіны“, „Ад родных хат, ад родных ніў“ і інфармацыйна-парадніцкай часткі. У каляндарыуме, апрача імянін па новым і старым стылю, чытачы знойдуць рубрыку усходаў і захадаў сонца, а таксама памятныя даты. У другім раздзеле матэрыял, прысвечаны XXX-годдзю ПНР, БГКТ і польска-беларускаму культурнаму супрацоўніцтву ў пасляваенны перыяд. У ім таксама артыкулы пра Кастуся Каліноўскага, беларускую тэму ў творчасці Элізы Ажэшка і арганізацыю КПЗБ на Беласточчыне. У наступным раздзеле фальклор Беласточчыны і „Паэты БГКТ“. З інфармацыйна-парадніцкай часткі можна даведацца аб магчымасцях прафесіянальнага і агульнага навучання для працуючай моладзі, аб справах да афармлення ў ПЗУ, аб замежнай турыстыцы, гадоўлі кароў, вырошчванні ільну і таполяў, што рабіць у гаспадарцы (распісанне заняткаў на цэлы год), у садзе і агародзе, пра лекі на акне і як купацца. Тут таксама карысныя весткі з галіны дамаводства і кулінарыі.

Каляндар налічвае 175 старонак і каштуе 15 зл. Набыць яго можна ў аддзелах БГКТ, а таксама выпісаць за залічэннем паштовым (у апошнім выпадку трэба звяртацца ў ГП БГКТ:
ZG BTSK, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11).

## НАСУСТРАЧ ЮБІЛЕЮ

Нядаўна XIII Пленум ЦК ПАРП прыняў тэзісы аб трыццацігоддзі Польскай Народнай Рэспублікі, у якіх партыя ацэньвае 30-гадовы шлях і ўказвае на перспектывы далейшага развіцця. Адбылася сесія Ваяводскага камітэта ФАН у Беластоку, была прынята пастанова аб праграме святкаванняў трыццацігоддзя ПНР на Беласточчыне.

Пройдзеная дарога сведчыць яшчэ раз аб тым, наколькі слушнай і дальназоркай была праграма партыі польскіх камуністаў, якая звязала назаўсёды лёс нашага народу з сацыялізмам і запэўніла годнае месца сярод народаў свету. Сёння з гонарам можам сцвердзіць, што народная Польшча ў год свайго юбілею з'яўляецца краінай зусім іншай, з вялікім прадукцыйным патэнцыялам, з вялікімі творчымі магчымасцямі.

Беласточчына таксама мае вялікія дасягненні. На працягу мінулага трыццацігоддзя прамысловая прадукцыя павялічылася ў тры разы. Ураджай збожжа таксама павялічыўся ў тры разы, з 7—8 цэнтнераў з аднаго гектара да 24 цэнтнераў. Жыхары Беласточчыны дасягнулі аграмаднага, не сустракаемага дагэтуль ўзроўню культурнага развіцця.

Аднак нельга нам затрымацца на гэтых дасягненнях. Трэба развіваць надалей наш рэгіён. Трэба памятаць, што будучыня нараджаецца ўжо сёння. За 30 мінулых год жыхары нашага ваяводства ўнеслі вялікі ўклад у агульнанародны набытак. Актыўнасць нашага насельніцтва праявілася ў грамадскіх чынах. Іх вартасць на працягу 30 год ацэньваецца на больш чым 2 мільярды злотых. Грамадскім чынам пабудавана 2.108 кіламетраў дарог, 246 мастоў, больш чым 3,5 тысяч каналаў і шлюзаў, 185 стражацкіх раміз, некалькі соцень школьных будынкаў, памяшканняў для настаўнікаў, цэнтраў здароўя, святліц.

Рабочыя і служачыя, людзі ў горадзе і на вёсцы ад першых дзён гэтага года прымаюць усё новыя грамадскія абавязацельствы. Ваяводскі камітэт ФАН вітае іх ініцыятыву і адначасова звяртаецца з заклікам да ўсіх людзей Беласточчыны, каб уласнай, добрай працай сустрэлі юбілей нашай Айчыны.

На першае месца трэба высунуць працу, звязаную з агульнакраёвай акцыяй „Ад чыстасці да гаспадарнасці“. У мінулым годзе перад Цэнтральнымі дажынкамі прынесла яна вельмі добрыя вынікі. Каштоўнай ініцыятывай будзе пабудова памяшканняў публічнага карыстання. Датычыцца гэта перш за ўсё паляпшэння ўмоў працы пляцовак здароўя, а таксама інвестыцый, звязаных з паляпшэннем санітарных умоў у горадзе і на вёсцы. Трэці напрамак грамадскіх чыноў — гэта канкрэтны ўклад грамадскай працы ў рэалізацыю дзяржаўных інвестыцыйных планаў. Паасобныя рабочыя калектывы павінны ўключыцца ў хутчэйшую рэалізацыю вялікіх інвестыцый. Усё больш людзей павінна ўдзельнічаць у дапаможных працах пры пабудове цэнтраў здароўя, школ і іншых пляцовак.

Каб даць магчымасць прыняць масавы ўдзел у грамадскіх чынах, Ваяводскі камітэт ФАН у Беластоку аб'явіў нядзелю 28 красавіка 1974 г. днём усеагульнага грамадскага чыну людзей Беласточчыны.

Наступнае трыццацігоддзе, як ніколі, распачынаем, разумеючы новыя заданні, звязаныя з перспектыўнай праграмай. Згодна з гэтым планам за дваццаць год

(Працяг на стар. 5)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Вынікі песеннага конкурсу БГКТ ● Год 1974 на Гайнаўшчыне ● Багаты вечар у Ляневе ● З жыцця Варшаўскага аддзела БГКТ ● Пра клуб у Луцэ ● Сясгру і сына звялі са свесу ● Польскі культурна-асветны саюз у Чэхаславакіі ● Жыў-быў у бабулькі сыценькі бычок ● Помста Ґапкі ● Весткі з Дубровы, Заблудава, Старыны, Дабрыводаў, Міхалова, Дубін, Тапалянаў, Дубічаў Ц., Орлі, Ґрэдалёў, Кожына і інш. ● Песня „Co jej mogłeś dać”.**

## БГКТ ХРОНІКА

■ У канцы лютага ў гуртках БГКТ Бельскага павету адбыліся далейшыя справаздачна - выбарныя сходы, на якіх члены нашай арганізацыі падсумоўвалі сваю дзейнасць, выяўлялі прычыны некаторых недахопаў, намячалі планы працы на гэты год і выбіралі новыя праўленні. У Тапчыкалах пасля даклада і ажыўленай дыскусіі ў склад новага праўлення гуртка БГКТ былі выбраны: Анна Мароз — старшыня, Валянціна Стэмпа — сакратар і Вольга Чабан — скарбнік. У Райску таксама адноўлена праўленне. Бэзкатоўцы выбралі старшынёю Анну Волдак, сакратаром — Аліну Семянюк і скарбнікам — Юрку Дамброўскага. На гэтых сходах усім членам БГКТ былі ўручаны новыя членскія легітымацыі. У Дубяжыне на справаздачным сходзе пад кіраўніцтвам Аляксандра Раманюка члены БГКТ найбольш увагі прысвяцілі справам харавога калектыву, які працуе пад кіраўніцтвам Міхася Артышэвіча. Варта ўспомніць таксама аб тым, што ГП БГКТ закупіла гэтаму калектыву прыгожыя касцюмы.

■ Справаздачныя сходы ў гуртках, а дзе трэба, дык і справаздачна-выбарныя, а таксама абмен членскіх легітымацый у некаторых аддзелах БГКТ даўно закончаны. Да 31.XII.1973 года закончыў гэту кампанію беластоцкі павятовы аддзел, а да першай палавіны лютага — гарадскі аддзел у Беластоку і гданьскі аддзел БГКТ. У варшаўскім аддзеле не атрымала яшчэ новых легітымацый амаль 100 асоб. Найгорш з гэтымі справамі ў дуброўскім аддзеле. Там яшчэ нават не распачаліся падобныя сходы. У гайнаўскім аддзеле БГКТ такія сходы адбыліся толькі ў 36 гуртках. А ўсіх там гурткоў аж 70. У бельскім аддзеле да 3 сакавіка адбыліся справаздачна-выбарныя сходы ў 32 гуртках БГКТ (а ўсіх гурткоў 43), а ў сакольскім аддзеле — у 16 на 22 гурткі. Значыць, яшчэ вельмі многа працы маюць паасобныя аддзелы, калі прыняць пад увагу той факт, што ўказанні Прэзідыума ГП БГКТ гавораць аб тым, што справаздачную кампанію і абмен членскіх легітымацый трэба закончыць да 15 сакавіка. Сакавік — нагул працавіты месяц у БГКТ. Патрабуе вялікай ахвярнасці ад штатных працаўнікоў і актывістаў БГКТ.

■ Згодна з планамі ГП БГКТ, агляд тэатральных калектываў у аддзелах павінен адбыцца да канца сакавіка.

■ У канцы сакавіка адбудзецца пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення на тэму „Задачы БГКТ у сувязі са святкаваннем XXX гадавіны ПНР“.

■ У красавіку прысвечаны будуць вышэй спамянутай тэме пленарныя пасяджэнні праўленняў аддзелаў.

■ 3 сакавіка ў перапоўненай кіно-тэатральнай зале прафсаюзаў у Беластоку адбыўся фінал песеннага конкурсу БГКТ. Аб ім чытайце справаздачу ў наступным нумары „Нівы“.

**(мх)**

 

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

 СВЕТ

### 250-ГОДДЗЕ АКАДЭМІІ

Нядаўна ў маскоўскім Доме вучоных быў адкрыты традыцыйны гадавы сход Акадэміі навук СССР, якая ўступіла ў свой юбілейны год — 250 год існавання. Савецкія вучоныя адзначаюць гэту знамянальную дату як агляд дасягненняў айчыннай навукі, яе ўкладу ў сацыялістычную вытворчасць, у шматнацыянальную культуру, у барацьбу за мір і дружбу паміж народамі.

Другім ордэнам Леніна ўдастоена акадэмія ў сувязі з яе 250-годдзем.

### НОВЫ ЎРАД АНГЛІІ

5 сакавіка аб'яўлен састаў новага ўрада Англіі, які ўзначаліў лідэр лейбарысцкай партыі Гаральд Вільсон. У яго ўвайшлі міністр замежных спраў Дж. Калагэн, міністр фінансаў Д. Хілі, міністр унутраных спраў Р. Джэнкіс, міністр па пытаннях занятасці і прадукцыйнасці працы М. Фут і іншыя дзеячы лейбарысцкай партыі.

На парламенцкіх выбарах 28 лютага г.г. лейбарысцкая партыя атрымала ў палаце абшчын 301 месца, кансерватары — 296, лібералы — 14 і іншыя партыі — 24 месцы.

### ГРАМЫКА Ў КАІРЫ

За час нашага афіцыйнага візіту ў Арабскую Рэспубліку Егіпет, заявіў А. Грамыка перад адлётам у Дамаск, адбыліся карысныя сустрэчы і гутаркі з прэзідэнтам Садатам, міністрам замежных спраў Фахмі, сустрэчы з іншымі егіпецкімі дзяржаўнымі дзеячамі.

Гэтыя гутаркі праходзілі ў дружалюбнай дзелавой атмасферы і, на нашу думку, паслужаць справе далейшага развіцця і паглыблення супрацоўніцтва паміж Савецкім Саюзам і Арабскай Рэспублікай Егіпет. Мы хацелі б, каб іменна так развіваліся нашы адносіны.

### ДАПАМОГА СПЫНЕНА

Прадстаўнік МЗС Інданезіі заявіў, што некаторы час назад міністр замежных спраў КНР Цзі Пэн-фэй паведаміў міністру замежных спраў Інданезіі А. Маліку аб рашэнні Кітая спыніць падтрымку „камуністычным паўстанцам" у Інданезіі.

Прадстаўнік МЗС зрабіў гэту заяву ў сувязі з паведамленнем друку аб тым, што Чжоу Энь-лай абяцаў прэм'ер-міністру Малайзіі „не падтрымліваць камуністычныя сілы" ў гэтай краіне.

Як вядома, кіраўнік тайландскага ўрада заявіў нядаўна, што і ён атрымаў ад Пекіна аналагічнае запэўненне.

### АТАМНАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

У Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы дала ток атамная электрастанцыя „Норд", якая будуецца пры актыўным тэхнічным удзеле Савецкага Саюза, у цеснай садружнасці з Польшчай, Венгрыяй і Чэхаславакіяй. Пасля завяршэння будаўніцтва АЭС стане энергетычным гігантам не толькі ў маштабах рэспублікі, але і ўсёй Еўропы. „Норд" — гэта сацыялістычная эканамічная інтэграцыя ў дзеянні. (ак)

 БССР

### КАМУНІСТЫЧНЫ СУБОТНІК

Перадавыя маскоўскія прадпрыемствы выступілі з ініцыятывай, каб 20 красавіка правесці ва ўсім Савецкім Саюзе камуністычны суботнік у гонар дня нараджэння У. І. Леніна. На гэтую прапанову адгукнуліся рабочыя калектывы Беларусі. Напрыклад, цэментнікі з Ваўкавыска рашылі даць дадаткова да дзённай прадукцыі 10 тон высакаякаснага цэменту. Яны славяцца на Гродзеншчыне сваімі працоўнымі дасягненнямі. З пачатку пяцігодкі далі звыш плана сотні тон цэменту.

Камуністы Беларускага шыннага камбіната ў Бабруйску вырашылі, што да камуністычнага суботніка прыступяць усе рабочыя. Цяпер ва ўсіх цэхах і на ўчастках ідзе падрыхтоўка да правядзення партыйных і прафсаюзных сходаў, на якіх кожны калектыў выпрацуе свае мерапрыемствы па правядзенню „Чырвонага суботніка".

### ПАРТЫЙНЫ ВІЗІТ

Па запрашэнню Цэнтральнага Камітэта КПСС з 25 лютага па 4 сакавіка знаходзілася ў Савецкім Саюзе дэлегацыя партыйных работнікаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі на чале з намеснікам загадчыка сельскагаспадарчага аддзела ЦК ПАРП Р. Іваноўскім. Польская дэлегацыя наведала БССР, правяла гутарку ў Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі, пабывала на многіх прадпрыемствах і навукова-даследчых установах. Савецкія таварышы падзяліліся вопытам у кіраванні сельскагаспадарчай вытворчасцю.

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

Пад старшынством Ф. А. Сурганава адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана пытанне аб рабоце мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных Кіраўскага раёна ў святле патрабаванняў снежаньскага (1973 г.) Пленума ЦК КПСС.

### ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ

5 сакавіка адбылося ў Мінску чацвёртае пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага савета Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Памяць людская захоўвае ў сабе павагу да культурнай спадчыны народа, да геройскіх подзвігаў яго лепшых сыноў і дочак.Таму людзі з самымі высокімі пачуццямі кладуць кветкі да Вечнага агню Хатыні і помніка Перамогі ў цэнтры Мінска, да скромных пліт брацкіх магіл ва ўсіх кутках Беларусі. Таму абрастаюць рыштаваннямі старажытныя палацы і замкі, а лепшыя майстры любоўна аднаўляюць шэдэўры народнага мастацтва і архітэктуры.

### У ААН

Па даручэнню ўрада Беларускай ССР 4 сакавіка 1974 года пастаянны прадстаўнік БССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый В. С. Смірноў падпісаў Міжнародную канвенцыю аб спыненні злачынства апартаіду і пакаранні за яго, прынятую Генеральнай Асамблеяй ААН 3 лістапада 1973 года. (вр)

 ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ ДРУЖБЫ

Па запрашэнню ЦК ПАРП і Рады Міністраў ПНР з афіцыяльным візітам дружбы наведала нашу краіну партыйна-ўрадавая дэлегацыя Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі на чале з генеральным сакратаром ЦК КПЧ Густавам Гусакам. Зацікаўленне візітам у абедзвюх краінах было вялікае. Суадносіны паміж Чэхаславакіяй і Польшчай развіваюцца ў духу дружбы і супрацоўніцтва.

Напярэдадні прыезду чэхаславацкай дэлегацыі, Г. Гусак даў інтэрв'ю, якое перадавалася па польскаму радыё і тэлебачанню. У Варшаве была адкрыта выстаўка аб тысячагодніх суадносінах паміж абодвума народамі, а на Шлёнску адбыліся „Дні польска-чэхаславацкай дружбы".

### ЧЫН XXX-ГОДДЗЯ

Ідзе чын XXX-годдзя. Працоўныя масы прымаюць дадатковыя абавязацельствы — гэта іх уклад у развіццё краіны.

### ЖАНЧЫНАМ

З выпадку Міжнароднага дня жанчын І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і прэм'ер ПНР П. Ярашэвіч пераслалі ўсім жанчынам ліст з сардэчнымі пажаданнямі. І сакратар ЦК і прэм'ер сустрэліся таксама з дэлегацыяй польскіх жанчын. Кіраўнікі партыі і дзяржавы выказалі падзяку і пажаданне далейшых поспехаў у жыцці і працы ўсім жанчынам.

### АБ РЭФОРМЕ АСВЕТЫ

На чарговым супольным пасяджэнні Палітбюро ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада ПНР была разгледжана справа рэалізацыі рэформы асветы, пастанову аб якой прыняў Сейм 13.X.1973 г. Рэалізацыя праграмы 10-гадовай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы пачнецца ў 1978 годзе. Да таго часу будзе ісці падрыхтоўка падручнікаў і праграм навучання.

### САВЕЦКІЯ МЕДАЛІ ДЛЯ ПОЛЬСКІХ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

Пасол Савецкага Саюза ў Польшчы Станіслаў Пілатовіч уручыў групе польскіх спецыялістаў савецкія медалі за актыўны ўдзел у будове Волжскай фабрыкі малалітражных самаходаў ім. 50-годдзя СССР у Тальяці.

### НА ЦЭНТР ЗДАРОЎЯ ДЗІЦЯЦІ

Латарэя на Цэнтр здароўя дзіцяці карыстаецца вялікай папулярнасцю ў краіне і за граніцай. Ужо прадалося больш палавіны лёсаў. На конце „Цэнтра" ёсць ужо 224 мільёны зл., 700 тысяч долараў і многа рэчавых дараў.

### У ЖЭШОЎСКІМ

Жэшоўскае ваяводства наведалі Э. Герэк і П. Ярашэвіч. Пабывалі яны на найбольшых прамысловых прадпрыемствах раёна і сустрэліся там з рабочым актывам.

### ІНТЭРКОСМАС

Гэтак называецца арганізацыя, якая групіруе вучоных сацыялістычных краін і вядзе доследы ў галіне космасу. Польшча актыўна ўдзельнічае ў працах гэтай арганізацыі. Між іншым, у Інтэркосмасе была сканструявана апаратура для польска-савецкага даследчага спадарожніка „Капернік — 500". (вл)

 ВАЯВОДСТВА

### ПАДЗЯКА

У тэатры імя А. Вянгеркі адбылася ўрачыстая сустрэча прадстаўнікоў ваяводскіх улад з арганізатарамі і ўдзельнікамі „Панарамы 30-годдзя" ў Варшаве". Гаспадары ваяводства — І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі і беластоцкі ваявода З. Спрыха прывіталі прыехаўшых з Варшавы дырэктара „Панарамы 30-годдзя" К. Бачкоўскага і намесніка дырэктара аддзела культуры і мастацтва Упраўлення горада Варшавы Э. Красоўскага. Беластоцкі ваявода сардэчна падзякаваў уладам Варшавы за гасціннасць і сардэчны прыём, з якім сустрэліся беластаччане ў Варшаве. Найбольш заслужаныя арганізатары і выканаўцы мерапрыемства „Панарамы 30-годдзя" атрымалі адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны", шмат дзеячоў атрымала пахвальныя граматы ад І сакратара ВК ПАРП і беластоцкага ваяводы. Улады сталіцы, выражаючы падзяку арганізатарам „Панарамы", прызналі ганаровыя дыпломы шматлікім беластоцкім установам за актыўнасць у час сталічнага агляду дасягненняў Беласточчыны.

### ДЗЕНЬ ЖАНЧЫН

У Беластоку адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны Міжнароднаму дню жанчын. Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народу запрасіў на вечар прадстаўнікоў усіх асяроддзяў і прафесій. З падзякай для жанчын за добрую працу выступіў І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі. У мастацкай частцы паказалі сваю праграму гарцэрскі калектыў „Іскеркі" і фальклорны — „Пушчыкі".

### МОЛАДЗЬ ДА 30-ГОДДЗЯ

Нядаўна ў Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Рады Ваяводскай федэрацыі Сацыялістычных саюзаў польскай моладзі. Прысвечана яно было абмяркоўцы ўдзелу беластоцкай моладзі ў адзначэнні 30-годдзя ПНР. Праграма святкавання юбілею ПНР, як сказана было на пленуме, павінна паказваць моладзі дасягненні за апошнія 30 год нашай гісторыі, грамадскія, гаспадарчыя і культурныя перамены, кіраўнічую ролю партыі ў гэтым, сяброўства з СССР і іншымі сацыялістычнымі краінамі. Дзейнасць маладзёжных арганізацый будзе накіравана на калектыўную і індывідуальную актывізацыю сваіх членаў. Вынікі працы моладзі будуць запісаны ў кнігу акцыі „Індэкс 30-годдзя ПНР".

### З ПРАЦЫ КАМІСІІ

На чарговым пасяджэнні прэзідыума сельскагаспадарчай камісіі ВК ПАРП былі ацэнены конкурс „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная" і падрыхтоўка да веснавога выхаду ў поле. У конкурсе ўдзельнічала 1645 вёсак (больш 45% усіх). Ганаровае званне майстра сельскагаспадарчай вытворчасці атрымала 1357 гаспадароў, а званне перадавога гаспадара — 3083 гаспадары. Да веснавых работ найлепш падрыхтаваны Элцкі, Алецкі і Голдапскі паветы. Найгорш — Лапскі, Гайнаўскі і Бельскі.

(яч)




**Niedziela 17.III.**

6.40 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 7.10 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja rolnictwa. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.45 „Bieg po zdrowie". 8.55 Program dnia. 9.00 TELERANEK. 10.20 PKF. 10.30 „Costa" — film o Ameryce Południowej. 11.00 „Piosenka dla Ciebie". 11.50 Dziennik. 12.05 „Karajan dyryguje Beethovena". 12.45 Program wiejski. 13.15 „Przyroda polska". 13.30 Estrada Poetycka: „Gałązka oliwna". 13.40 Dla dzieci: „Złote wrota" — teatrzyk piosenki dziecięcej TV Słowackiej w Koszycach. 14.30 „Teatr polski w XXX-leciu PRL" — teleturniej. 15.25 Kwadrans tygodnia. 15.40 „W starym kinie" — „Gdyby miał milion" — film fab. 17.00 Losowanie Toto — Lotka. 17.15 „Tele — — Echo". 18.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Szkoła uczuć" — film franc. odc. III. 21.15 „Jazz w domu Cerri" — włoski program jazzowy. 22.05 Informacyjny magazyn sportowy. 22.50 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek 18.III.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Wskazówki metodyczne. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 ‚Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Oferty". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Szaniawski — „Dwa teatry". 21.50 Gra Idil Biret — fortepian (Turcja). 22.10 Dziennik.

**Wtorek 19.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Wskazówki metodyczne. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 9.00 „Szkoła uczuć" — film. franc. odc. III. 9.50 „Oaza w Kara — Kała" — film dok. radz. 10.00 „Siedemnaście mgnień wiosny" — film TV Radz. (od. V). 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — T. Różewicz „Kartoteka". 13.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: B. Potter — „Krawiec i jego kot". 17.05 „Na spiskiej ziemi" („Z ludowej szkatuły"). 17.35 Dla młodzieży: „W bliskim planie". 18.00 Dla młodzieży: „Inicjatywy XXX-lecia" („Konsultacje Uniwersytetu 8 milionów"). 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Program publicystyczny. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Siedemnaście mgnień wiosny" — film TV Radz. (odc. V). 21.30 Wiadomości sportowe. 21.35 „Świat i Polska". 22.20 „Feralny dzień" — program rozr. ang. 22.45 Dziennik.

**Środa 20.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 8.20 „Rajdowcy" — film fab. bułg. 10.00 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Polska pierwszych Piastów". 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Indukcja elektromagnetyczna". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Woda". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Akompaniament" („Dźwięki i czary"). 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.20 „Najlepsze z najlepszych". 18.15 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.35 ‚Zagrożenie" film TV Czechosł. („Łuk tęczy") odc. VII. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.25 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Feyenoord (Rotterdam) — Ruch (Chorzów). 22.10 „Wielcy ludzie a muzyka" — Stefan Żeromski. 22.40 Dziennik. 22.55 Wiadomości sportowe.

**Czwartek 21.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Fizyka. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 8.40 „Zagrożenie" — film TV Czechosł. („Łuk tęczy") odc. VII. 9.20 „Zawiść" — film fab. czechosł. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Stanisław Moniuszko". 12.00 Dla szkół (kl. VIII) Język polski — „Ernest Hemingway". 12.55 Dla szkół: (kl. III—IV lic.) Język polski — „Konstanty Ildefons Gałczyński". 13.25 TV Kurs Informatyki. 13.55 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 15.05 Matematyka w szkole: Własności ilorazu II. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „Ludzie nauki". 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 „Warszawskie perspektywy". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Sensacji: M. Brett — „Na jedną kartę". 21.20 Wiadomości sportowe. 21.30 „Rozmowy Wiedeńskie" — program publ. 21.55 „Krix — Krax" — program rozr. węg. 22.15 Magazyn ITP. 22.25 Dziennik.

**Piątek 22.III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 9.20 „Człowiek z Nevady" — film ameryk. 11.35 ‚Igor Grabar — artysta i naukowiec" — film dok. radz. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Polska — państwo bałtyckie". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.20 „Wychowanie fizyczne receptą na zdrowie". 17.45 Tygodnik Informacyjny Młodych. 18.00 Dla młodzieży: „Dwie szkoły" — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Program pop. naukowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Zakład" — film ameryk. („Człowiek z Nevady"). 20.45 „Panorama". 21.25 Wiadomości sportowe. 21.30 „Kaprysy Łazarza" — film fab. TVP. 22.20 Dziennik. 22.35 Wiadomości sportowe.

**Sobota 23. III.**

6.30 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 7.00 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 9.10 „Rodzina Straussów" — film ang. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Gady". 10.30 „Wypadek" — film fab. ang. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Wskazówki metodyczne. 14.30 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.00 Program dnia. 15.05 Program I proponuje. 15.20 Redakcja Szkolna zapowiada. 15.35 TV Informator Wydawniczy. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci: „Sobótka". 16.30 Dla młodzieży: Finał XV Olimpiady Wiedzy o Polsce i Świecie Współczesnym. 17.20 „Nie tylko dla pań". 17.50 „Rodzina Straussów" — film ang. 18.45 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Wypadek" — film fab. ang. 22.05 Dziennik. 22.25 Wiadomości sportowe. 22.45 „Gwiazdy 7 stolic — Wieczór gwiazd.




**Piątek, 15 marca**

8.00 Spektakl TV. 15.15 Program dnia. 16.00 Panorama nowin. 16.15 Film animowany. 16.40 Świat socjalizmu. 17.10 Romanse rosyjskie. 17.35 Spektakl TV. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.50 Program sportowy.

**Sobota, 16 marca**

7.00 Program dnia. 7.30 Dla dzieci. 8.00 Koncert. 8.45 Spektakl TV. 10.10 Przegląd międzynarodowy. 10.25 Spotkania literackie. 11.50 W muzeach. 12.20 Film fab. 13.45 Chór łotewski. 14.55 Film fab. 16.00 Panorama nowin. 16.15 Filmy animowane. 16.45 Cyrk. 17.20 Film dokumentalny. 17.40 Teatr miniatur. 18.30 Śpiewa E. Chil. 19.00 Czas. 19.30 Panorama filmowa. 21.00 Sport.

**Niedziela, 17 marca**

7.00 Program dnia. 13.40 Program muzyczny. 14.15 Panorama międzynarodowa. 14.45 Koncert życzeń. 15.30 Filmy animowane. 16.15 Film fab. 17.05 Klub filmowy. 18.05 Sport. 19.00 Czas. 19.30 Balet. 20.30 Sport.

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЦЁТКА — ЧАСТКА VI

Рэвалюцыйная лірыка Цёткі звязана перш за ўсё з 1905 годам. Праўда, першы верш рэвалюцыйнага цыкла „Музыкант Беларускі“ быў напісаны ў 1904 годзе, а апошнія вершы гэтага цыкла „Суседзям у няволі“, „У дарогу“, „Мае думкі“, „Бура ідзе“ стварыла Цётка ў 1906 годзе. Аднак вершы найбольш характэрныя для рэвалюцыйнай лірыкі паэтэсы, — „Небывалыя часы“, „Хрэст на свабоду“, „Ласы“, „Мора“, „Пад штандарам“, „Вера Беларуса“ напісала Цётка ў перыяд найбольшага рэвалюцыйнага ўздыму ў 1905 годзе. Да тыпова рэвалюцыйных твораў трэба таксама аднесці імпрэсію ў прозе „Прысяга над крывавымі разорамі“, якая выйшла з-пад пяра Цёткі ў 1906 годзе. З вышэй сказанага відаць, што рэвалюцыйная лірыка Цёткі была арганічна звязана з атмасферай, здарэннямі і фактамі першай рэвалюцыі ў Расійскай Імперыі. З 1905 года рэвалюцыйная лірыка Цёткі мае дэкларатыўны характар. Няма аднак сумненняў у тым, што была гэта якасна новая з’ява ў беларускай літаратуры. Ніводзін з беларускіх паэтаў XIX ст. і ніводзін з аўтараў „Нашай нівы“ не фармуліраваў сваіх грамадскіх поглядаў у такой катэгарычнай і крайняй форме, як рабіла гэта Цётка. Калі аднак шукаць ідэйных папярэднікаў Цёткі, дык трэба было б звярнуць увагу на публіцыстыку Каліноўскага. Зразумела, цяжка параўноўваць публіцыстыку і паэзію. Параўнанне адносіцца тут аднак да зместу, а не да формы. Так ці інакш, радыкалізм публіцыстыкі Каліноўскага знайшоў развіццё ў паэзіі Цёткі. Зрэшты, трэба сказаць, што і ў перыяд „Нашай нівы“ некаторыя пісьменнікі стварылі вершы, набліжаныя па сваёй ідэйнай танацыі да вершаў Цёткі. Прыкладам могуць быць такія вершы Коласа, як „Мужык“, „Ворагам“, „Мікалаю II“, „Не паддамся“. Аднак няма сумненняў, што не Колас, не Купала і нават не рэвалюцыянер Цішка Гартны, а якраз Цётка з’яўляецца прадстаўніком найбольш радыкальнага напрамку ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі. Рэвалюцыйная плынь у яе творчасці была аднак з’явай кароткатрывалай. Мы ўжо сказалі, што адзін верш з 1904 года, некалькі вершаў з 1905 і некалькі з 1906 года вычэрпваюць рэвалюцыйную тэматыку ў творчасці паэтэсы.

Усё, што напісана раней і пазней, не мае сувязі з радыкальна-бунтарным напрамкам і змяшчаецца ў плыні крытычнага, а лепш было б сказаць, у стылі пазітывістычнага напрамку. Рэвалюцыйныя вершы Цёткі — гэта факелы, запаленыя ад агню рэвалюцыі 1905 года і кінутыя ў беларускія сялянскія масы. Рэвалюцыйныя творы Цёткі карміліся сокамі народнага антыцарскага бунту. Маглі існаваць яны так доўга, як існаваў гэты бунт, і памерлі яны разам з яго смерцю. Якое грамадскае значэнне мела радыкальная лірыка Цёткі? Ці ўзварушыла яна беларускае сялянства? Ці спрыяла ўзросту і развіццю рэвалюцыйных настрояў у Беларусі? Адказ нялёгкі. Па-першае, рэвалюцыйныя вершы Цёткі былі апублікаваны ў 1906 годзе. Гэта значыць тады, калі ўжо ападала найвышэйшая рэвалюцыйная хваля. Па-другое, зборнік Цёткі быў выдадзены малым тыражом па-за межамі Беларусі. З гэтай, бадай, прычыны дайшоў ён да рук толькі невялікай колькасці беларусаў.

На нашу думку, вершы Цёткі з’яўляюцца большай праблемай для сучасных літаратуразнаўцаў, чым для беларускіх мас у момант іх напісання. А якая літаратурная вартасць рэвалюцыйнай лірыкі Цёткі? Тут хацелася б далучыцца да ўкраінскага літаратуразнаўцы Святліцкага, які, характарызуючы радыкальна-дэкларатыўны напрамак у беларускай літаратуры, пісаў:

„Выходят стіхі, не без огню, але толькі стіхі, а больш нічого. Шчось в роді тоё мові, якую учуемо по великіх народных збіраннях, від пересічного, народного беседніка — трібунала, богато палкіх фраз, грізных слів, тількі чіну ніякого, бо ўраженіе з промовою зникло“ (Ч. Святліцкі. Відроджэнне білорускοго пісменства. Львів, 1908 г., с. 16).

Нягледзячы на ўсё сказанае, трэба адзначыць, што гэта лірыка была вынікам прыгожага парыву Цёткі, прыгожай адвагі дробнай, кволай жанчыны, якая вызывала на бой магутныя сілы Расійскай Імперыі. Лірыка гэта здзіўляе тым больш, што выйшла з-пад пяра шляхцянкі, якая заклікала сялян да барацьбы з шляхецкім класам.

---

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# АЛЕНДРЫ

Вёсачка **Алендры** знаходзіцца ў 15 км на поўдзень ад Сямяціч, гміна Мельнік, на правым беразе ракі **Буга**, 24 гаспадаркі, каля 120 жыхароў.

Землі гэтыя ў XVI стагоддзі належалі да каралеўскіх маёмасцей і ўваходзілі ў **староства Мельніцкае.** Аднак узнікненне **Алендраў** трэба аднесці да больш позняга часу і звязаць з гаспадарчай дзейнасцю ў другой палавіне XVIII стагоддзя **Анны Яблаоўскай** (памерла ў 1801 г.), якая была ўладальніцай горада Сямяціч і вялікіх маёнткаў у іх ваколіцы. Легенда кажа, што А. Яблаоўская пасяліла тут **выхадцаў з Галандыі**, і ад іх вёска заімела назву Галендры, якая потым прыняла сучасную форму Алендры. Больш праўдападобным бадай будзе меркаванне, што А. Яблаоўская пасяліла тут падданых са сваіх уладанняў **Гайбуды,** што каля Гданьска, абавязваючы іх будаваць **судны** і займацца перавозам розных прадуктаў (збожжа, смалы, дзёгцю, паташу і іншых) у Гданьск, а адтуль прывозіць розныя вырабы, якія былі неабходны для яе гаспадаркі, пастаўленай на высокім узроўні як на тыя часы. Вядома ж, што ўладальніца Сямяціч трымала на Бугу значны **рачны флот.** У памяці старажылаў Алендраў захавалася звестка, што каля вёскі калісьці была **бяндзюга.** Карысталіся ёю яшчэ ў першай палавіне нашага стагоддзя пры **сплаве дрэва.** Звозілі яго зімою з **Траянаў, Кадлубы, Правалы,** а нават ад **Нурца** і **Градзіска,** вясною ж сплаўлялі яго ўніз па Бугу і Вісле.

Мясцовыя назвы па рацэ Бугу: **Каля Рова, Мацькоўская Рака, Купы, Кацапскі Роў;** рачныя астравы: **Каля Шопліка, Астровак, Буськоўскі** (відаць, ад вёскі **Буска,** што на левым беразе ракі); лугі і пашы: **Макрэц, Заднія, Рудавіна, Заровак, Трасціна, Пад Кавальскай Гарой;** палеткі: **Кавальская Гара, Задняе Багно, Каралеўскае Багно, Тры Моргі, Шырокае, Падбужжа, За Стадоламі;** лясы: **Ганусінскі** і **Баратынскі;** дарога: **Мельніцкі гасцінец.**

Прозвішчы жыхароў: **Верашчак, Здунюк, Зюлкоўскі, Кленцнер, Мантур, Мучко, Савіцкі, Садоўскі, Скаржынскі, Федарук, Федарчук, Шульц, Ядлоўскі.**

Зямля тут слабая — надбужанскія пяскі. Таму калісьці мужчыны займаліся вырубкай, звозкай і сплавам дрэва, наймаліся ў майстэрні і фабрычкі ў Сямяцічах, працавалі чорнарабочымі на чыгунцы. Жанчыны ж даглядалі гаспадаркі і жывёлу, пралі кудзелю ды ткалі.



*Вуліца ў Алендрах.*

**Надзея Здунюк,** год 78, успамінае, што муж адразу пасля вяселля „спраўляў“ сваёй маладой жонцы **кросны** і іншы ткацкі абсталюнак, купляў **калаўротак.** Пралі ўсю **пілipаўку** і **мясніцы,** снавалі ў пачатку **вялікага посту** і стараліся да **Вялікадня** закончыць тканне. Яна сама, маючы ў сям’і мужа і трох сыноў, за зіму напрадала і натыкала 10—11 **сцен** палатна (**„сцяна“** мела **8 локцяў, „локаць“** — каля 65 см), 4—5 сцен **ручнікоў,** 3—4 сцяны **сукна,** 5—6 сцен тканіны на мяшкі, апрача гэтага, ткала **пасцілкі** і іншыя неабходныя ў хаце і гаспадарцы матэрыялы. Сукно ткалі з нітак, напрадзеных з воўны (аснова і ўток — ваўняныя), „вырабляць“ вазілі ў **фолюш** у Аляховічы або Кадылічы. Мужчынскую верхнюю вопратку (касцюмы, курткі і буркі) шылі **яўрэі-краўцы.** Гаспадар ехаў у Сямяцічы, прывозіў яўрэя-краўца дадому, і той за тыдзень-два абшываў усіх мужчын у сям’і. Іншую жаночую і мужчынскую вопратку шыла пераважна сама гаспадыня ўручную. Мужчынскія кашулі шылі з **льнянога палатна** свайго вырабу, але на перады і каўняры набіралі трохі крамнага палатна. З **„паўсукна“** (аснова — крамныя баваўняныя ніткі, уток — воўна сваёй пражы) гладкага, у клетку або рабога шылі спадніцы, унізе аздаблівалі іх **махрамі-„шчотачкай“.** Блузкі вышывалі ў розныя **ўзоры.**

Па Бугу часта пралягала граніца паміж плямёнамі, краінамі, дзяржавамі. І яго берагі неаднойчы былі сведкамі крывапралітных бітваў. Але тая веліч людскога духа і гераізму, што выявілася тут у **чэрвені-ліпені 1941 года** пераўзыходзіць усё дагэтуляшняе.

Солтыс вёскі Алендры **Янка Здунюк,** 1922 года нараджэння, расказаў, што калі восенню 1939 года русла Буга стала граніцай паміж **Савецкім Саюзам** і і гітлераўскай Германіяй, камандаванне **Чырвонай Арміі,** прадбачваючы агрэсіўныя намеры фашыстаў, прыступіла да ўзвядзення **сістэмы абаронных умацаванняў** на правым беразе ракі. Працы пачаліся вясною 1940 года, і к лету 1941 г. інжынерныя часці паспелі пабудаваць і ўзброіць толькі невялікую частку дзотаў. Іншыя аб’екты яшчэ будаваліся.

Калі ж раніцай 22 чэрвеня 1941 г. фашысты знячэўку пачалі абстрэльваць і атакаваць савецкую граніцу, пагранічныя часці Чырвонай Арміі адразу занялі трывалую **лінію абароны,** апорнымі пунктамі якой сталі гатовыя **дзоты.** І хоць фашысты ўжылі самыя цяжкія калібры артылерыі і бамбардзіровачную авіяцыю, **ніводнага** з гэтых апорных пунктаў не здолелі знішчыць. Бяссільнымі былі таксама атакі нямецкай пяхоты, што некалькі разоў спрабавала **фарсіраваць** Буг і прабіцца праз лінію савецкай абароны. Гарматны і кулямётны агонь савецкіх пагранічнікаў спраўна касіў гітлераўцаў і граміў іх тэхніку. Калі ж ворагу ўдалося прарваць недзе на поўначы, за Драгічынам лінію савецкай абароны і па шашы Драгічын — Высокае пачаў ён акружаць надбужанскія ўмацаванні, савецкія пагранічнікі не пакінулі сваіх пазіцый, занялі **кругавую абарону** і рашылі стаяць на смерць. Цэльным артылерыйскім і кулямётным агнём яны знішчалі нямецкіх салдат і тэхніку, што паяўляліся на шашы Драгічын — Высокае, арганізавалі **вылазкі** супроць фашыстаў, якія акружылі іх кальцом **блакады,** паспяхова адбівалі бясконцыя атакі пяхоты і танкаў праціўніка. Разам з пагранічнікамі ў дзотах знаходзіліся сем’і афіцэраў — жанчыны і дзеці. Лінія фронту ўжо была за Мінскам, а гераічныя абаронцы над Бугам, у тым ліку і ў ваколіцах вёскі Алендры, усё яшчэ трымаліся. Але недзе ў палавіне ліпеня, ужо на чацвёртым тыдні вайны фашысты прымянілі самую страшную зброю — **атрутныя газы.** Ноччу, пад прыкрыццём змасаванага агню да дзотаў праніклі варожыя **лазутчыкі** і засыпалі ў вентыляцыйныя адтуліны смяротны парашок. Страшнай смерцю загінулі героі.

Нямыя сведкі тых трагічных тыдняў бяспрыкладнай у сваім гераізме барацьбы з наезнікам — гэта **рэшткі дзотаў,** што раскіданы па пагорках правага берага Буга, таксама і ў ваколіцах Алендраў. Некаторыя з іх ужо зараслі сасновым лесам, а пры іншых штогод у чэрвеньскім сонцы каласіцца збожжа. Зямля хутка залечвае свае раны, але памяць аб веліччы подзвігу герояў назаўсёды застаецца ў людскіх сэрцах.

Цяпер у Алендрах людзі працуюць на сваіх гаспадарках, на будовах у Сямяцічах і на чыгунцы. Многа моладзі вучыцца ў сярэдніх школах. Адсюль выйшлі **Янка Ядлоўскі** — механік у Тчэве, магістр інжынер па будове мастоў **Аляксандр Мучко,** які цяпер у Гданьску, і шэраг іншых спецыялістаў. У вёсцы ў апошнія гады выразна заўважаецца **ўздым** гаспадаркі, павышэнне ўраджаю і павелічэнне гадоўлі. Найлепшым гаспадаром у Алендрах з’яўляецца **Пётр Мучко.**

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



*Рэшткі абароннага дзоту ў ваколіцах Алендраў*




## Убачыў тое поле

У студзеньскім нумары „Месячніка літэрацкага“ Клеменс Кжыжагурскі змясціў свой рэпартаж пра Шымкі ў Беластоцкім павеце. Загаловак рэпартажа: „Убачыў тое поле“.

Кжыжагурскі перадае сваю гутарку з сакратаром гміннага камітэта партыі, Яўгенам Азяблам.

Затым Кжыжагурскі пераязджае ў Луплянку, дзе вядзе доўгую гутарку з Кардашамі: Уладзімірам, Віцем, з Кардашыхамі. Па-беларуску, або як кажуць у Луплянцы, па-просту.

Кжыжагурскі піша: „Некалі ў беларускіх вёсках „па-просту“ было знакам класавай прыналежнасці. „Папанску“ гаварылі багатыя, з маёнткамі: „па-просту“ — паншчынны мужык“.

Клеменс Кжыжагурскі правёў у сваім рэпартажы аналіз жыцця адной сям’і: Кардашоў з Луплянкі. Паказаў, ад чаго пачыналі, чаго дасягнулі сваёй цяжкай працаю, якія мары іх, а якія мары дзяцей? Прытым, лёсы сям’і гэтай паказаны на фоне праблем цэлага Беластоцкага павету.

Напісана цікава, жыва, нічога не перакладаючы: польская мова маладых Кардашоў мяжуецца з беларускай мовай старых. (ся)

(Працяг са стар. 1)

## Беласточчына — Варшаве

наваколля Янава ў Сакольскім павеце ўжо даўно праславіліся тым, што ўмеюць на кроснах вычараваць захапляючыя малюнкі.

Сустрэўшы прадстаўніка ваяводскага праўлення кіно, тав. Эйсманта, які трымаў дыжурства на гэтай выстаўцы, я запытаў у яго:

— Якое зацікаўленне нашай выстаўкай?

— Вялікае. Гэта я мяркую па прысутнасці ў зале, дзе мы паказваем фільмы аб Беласточчыне. Паводле маёй ацэнкі, на выстаўцы бывае па 10—15 тыс. людзей у дзень.

Нейкі вучань сярэдняй школы з Мінска Мазавецкага сціпла перапісваў сабе ў блакнот лікі, якія расказвалі аб гаспадарчым развіцці Беласточчыны.

— Што ты ведаў дагэтуль пра Беластоцкае ваяводства?

— Амаль нічога. Чуў толькі, што там зубры жывуць, — шчыра адказаў ён.

— А цяпер чаго даведаўся?

— Цяпер я бачу, што гэта багатая і прыгожая частка нашай краіны.

Для кантрасту звярнуўся я да адной старэйшай варшавянкі з просьбай сказаць аб уражаннях.

— Мы яшчэ з даваеннага часу прывыклі, што Беласточчына — гэта горшая частка нашай краіны. А вось тут я бачу, што гэта няпраўда. Такія цудоўныя матэрыялы на футры і на сукенкі ў вас вырабляюць! Толькі скажыце, калі ласка, дзе гэта можна купіць і за колькі? Асабліва вырабы з „Біруны"?

Яшчэ пытаў я аб уражаннях у многіх іншых наведвальнікаў выстаўкі. У адказах паўтаралася захапленне. Адмоўных выказванняў не было.

З выстаўкі гаспадарчых дасягненняў накіраваўся я на выстаўку жывапісу і скульптуры. Тут людзей было намнога менш, але тыя, што рашылі наведаць вядомую галерэю сучаснага жывапісу на варшаўскім МДМ-е, маглі і тут пераканацца, што мастакі Беласточчыны таксама *„не гусі і свой голас маюць"*. Прыемна адзначыць, што высокую ацэнку атрымалі працы нашага рэдакцыйнага мастака Стэфана Рыбі.

Вечарам гэтага дня прачытаў я ў варшаўскіх газетах кароценькую інфармацыю, што ва Уяздоўскіх алеях 22 лютага будзе адкрыта крама пад шыльдай „Беластоцкая зямля". Уяздоўская алея — гэта вуліца замежных пасольстваў і цэнтральных дзяржаўных установ. Рашыў пайсці паглядзець. На 15 мінут перад адкрыццём ля дзвярэй гэтай крамы ўжо стаяла даўгаватая чарга людзей. Праз выставачныя вокны відаць было, што ў гэтай краме можна купіць перш за ўсё вырабы народнага рамяства, нават калаўрот за 720 зл. Толькі навошта варшавянам калаўрот? Аказваецца, што гэта вельмі каштоўны дэкаратыўны элемент для суперсучаснага хатняга абсталявання.

Калі адкрылі дзверы, народ так цесна запоўніў краму, што не было дзе нават павярнуцца. Найчасцей куплялі даматканыя дываны з футраных абрэзкаў.

На абед я пайшоў, вядома, у рэстаран „Пад зубрам". На час беластоцкіх дзён „Панарамы" такую назву прыняў варшаўскі рэстаран „Гастраном". Загадчык гэтага рэстарана сказаў мне, што беластоцкая кухня вельмі спадабалася варшавянам.

— Да нас на абед, — гаварыў ён з гонарам, — запрашалі сваіх гасцей высокія дзяржаўныя дзеячы. Некаторыя беластоцкія блюды я буду старацца захаваць назаўсёды ў нашым меню.

Было яшчэ многа іншых беластоцкіх мерапрыемстваў у сталіцы. Магчымасць, каб паказацца ў Варшаве і краіне, улады Беласточчыны выкарысталі добра. Цяпер яны ўступілі месца Быдгаскаму ваяводству.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**

## Каб больш чыталі



Аж 80 прац. агульнага тыражу „Нівы" складае паштовая падпіска. Гэта вельмі добра, бо такім чынам „Ніва" мае сваіх пастаянных чытачоў. Вялікую ролю тут адыгрываюць пісьманосцы. Дзякуючы штодзённым кантактам з людзьмі яны памагаюць распаўсюджваць „Ніву".

Мы папрасілі сёння намесніка дырэктара Абвадовай паштова-тэлекамунікацыйнай установы ў Беластоку Яна Кавальчука расказаць аб росце падпіскі на „Ніву" ў Беластоцкім павеце.

— Як справа падпіскі на „Ніву" прадстаўляецца ў вашай акрузе?

— Вядома, што мы не можам раўняцца да суседзяў з Гайнаўкі ці Бельска. У нас тэрыторыя, на якой ідзе падпіска „Нівы", меншая. Гэта перш за ўсё вёскі на ўсход ад Беластока. У іншых месцах падпіска выступае радзей. У нас цяпер 698 экземпляраў „Нівы" ў падпісцы. Найлепш стаяць пошты ў Рыбалах, Гарадку, Фальварках Тыльвіцкіх, Юшкавым Грудзе і Ялоўцы.

— Якія вашы планы наконт павелічэння падпіскі?

— Неўзабаве ў нас будзе гадавая нарада ўсіх начальнікаў пошт. Як штогод, многа ўвагі прысвецім чытальніцтву газет. Прадставім дакладны аналіз дасягненняў, недахопаў і магчымасцей. Выразна і станоўча падкрэслім патрэбу далейшага пашырэння падпіскі „Нівы". Як і раней, будзем узнагароджваць тых пісьманосцаў, якія атрымаюць у гэтай галіне найлепшыя вынікі. Дырэкцыя наша не будзе стаяць з боку усіх гэтых спраў. Найперш пастараемся не дапусціць да спадку падпіскі на „Ніву" ў летні перыяд.

— Верым, што вопытная дырэкцыя ОУПТ у Беластоку і амбітныя пошты не падвядуць, што прыбудзе яшчэ многа падпісчыкаў і чытачоў „Нівы". Дзякуем за размову.

**Гутарыў М. Гогель**
**фота Я. Цялушэцкага**

## Да нас пішуць — адказваем

### СА СТАРОНАК ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

Адзін з нашых чытачоў у сваім лісце, прысланым у нашу рэдакцыю, пытаецца пра лёс вядомага здрадніка беларускага народу Станіслава Булак-Балаховіча.

У адказ прыводзім артыкул, змешчаны ў „Беларускай савецкай энцыклапедыі", том II, Мінск 1970, стар. 461, у якім знаходзім найбольш поўныя і аўтарытэтныя звесткі пра С. Булак-Балаховіча.

„Булак-Балаховіч Станіслаў Нікадзімавіч (10.2.1883, маёнтак каля Відзаў — верасень 1939), адзін з кіраўнікоў белагвардзейшчыны ў Расіі. У лістападзе 1918 на чале кавалерыйскага палка Чырвонай Арміі перайшоў да белых. Удзельнік паходу Юдзеніча. Намагаючыся ўзначаліць белагвардзейскія сілы ў Прыбалтыцы, ў студзені 1920 арыштаваў Юдзеніча. Беларуская рада залічыла яго атрад у сваё „войска". У лютым 1920 на чале „беларускага атрада" перайшоў на бок буржуазнай Польшчы. У савецка-польскую вайну камандаваў атрадамі, якія фарміраваў эсэр Б. В. Савінкаў. У кастрычніку 1920 Булак-Балаховіч ператварыў свае атрады ў „рускую дабраахвотную армію", якая 6.II.1920 перайшла ў наступленне ўздоўж Прыпяці, 10 лістапада захапіла Мазыр, дзе Булак-Балаховіч абвясціў сябе „галоўнакамандуючым усіх узброеных сіл на Беларусі" і стварыў так званы „беларускі ўрад". У канцы лістапада 1920 банды Булак-Балаховіча разгромлены, ён уцёк у Польшчу. Да 1922 арганізоўваў налёты на Савецкую Беларусь, якія суправаджаліся знішчэннем насельніцтва, гвалтамі, рабункамі. У 1937—39 добраахвотнік у арміі Франка ў Іспаніі".

## На спартыўнай ніве

# Настольны тэніс у Дуброве

У Дуброве вялікім зацікаўленнем сярод моладзі карыстаецца настольны тэніс. Заняткі па пінг-понгу вядзе з імі трэнер Зыгмунт Буднік. З яго выхаванкаў найлепшых вынікаў у гэтай галіне спорту дабіліся Казімір Адамовіч, Юрка Герман і Янка Цярэшка. Сярод малодшых тэнісістаў найлепшымі з'яўляюцца (на здымку злева направа): Здзіслаў Бадэк — фіналіст павятовых спаборніцтваў на першынство ў настольным тэнісе, Мар'ян Гарлеўскі — віцэчэмпіён павету ў катэгорыі пачатковых школ, Бажэна Ксяжкоўская — віцэчэмпіён павету ў катэгорыях старэйшын і юньёраў, Станіслаў Руткоўскі — чэмпіён ліцэя ў Дуброве і Рамуальд Нядзведскі — лепшы тэнісіст у павеце.

**Тэкст і фота Я. Ц.**



## Так бывае...

# Людзі і слёзы

Жыццю спадарожнічае і радасць і гора. Адных жыццё песціць, другіх крыўдзіць; да адных адносіцца беражліва, да другіх быццам варожа; адны праз жыццё ідуць роўнай і гладкай дарогай, другія цярністым і выбоістым шляхам. Аб горы некаторых жыхароў вёскі Скупава, Гайнаўскі павет, аб іх слязах да сённяшняга дня раскажам вам, чытачы, у гэтай публікацыі.

### РАЗ'ЕХАЎ ЦЯГНІК

Гадоў шэсць таму назад цягніком вяртаўся з Гайнаўкі дамоў Янка Гарустовіч. Быў крыху выпіўшы, загаварыўся з пасажырамі і правароніў свой прыпынак у Гнільцы. Даехаўшы да наступнага прыпынка ў Нараўцы, вырашыў вяртацца дамоў па шпалах чыгункі. Была імгла і вецер дзьмуў у вочы. Калі Янка Гарустовіч пачуў, што ззаду пад'язджае цягнік, не хапіла ўжо часу скочыць за рэйкі. І так недарэчна закончылася жыццё шанаванага чалавека ў вёсцы, бацькі дваіх маленькіх дзяцей (аднаму было 3 гады, другому дзіцяці толькі 8 месяцаў). Асіраціў ён дзяцей, якіх моцна кахаў, аўдавіў маладую прыгожую жанчыну. Яшчэ і сёння слёзы зрашаюць вочы яго найбліжэйшых.

### ЗАМЁРЗ У СНЯГУ

Ян Адамовіч працаваў сакратаром былой грамадскай рады нарадовай у Нараўцы. Добра выконваў свае абавязкі і ахвотна выконваў шмат грамадскай працы. У студзені 1972 года ў Нараўцы была арганізавана дахадовая забава. Адным з яе арганізатараў быў і Ян Адамовіч. У гэтую ноч была страшэнная замець. Пасля поўначы вырашыў ён ісці дамоў у Скупава, якое ляжыць ад Нараўкі ў 5 кіламетрах. Ісці трэба было шашою праз пушчу. Калегі па рабоце і камендант нараўкаўскай міліцыі даказвалі, што дайсці будзе вельмі цяжка, што лепш пачакаць раніцы. Але пераканаць яго ніхто не змог, і ён пайшоў дахаты, угразаючы ў снягу па жывот. Замучыўся зусім. І ён прысеў. А быў ўжо непадалёку ад будынкаў вёскі. Некалькі разоў крыкнуў. Нехта ў вёсцы чуў гэта. У адной з першых хат сабака, мусіць, чуючы гібель чалавека, страшэнна брахаў, проста скавытаў. Абудзіў ён свайго гаспадара, той вышаў з хаты, убачыў, што ля будынкаў нікога няма і пайшоў далей спаць. А жаласны брэх сабакі яшчэ доўга не даваў яму заснуць. Цела Яна Адамовіча доўга не маглі знайсці. Замяло яго снегам. І толькі, калі стала адліга, яго цёшча ўбачыла нешта чорнае за стадоламі. Быў гэта Ян.

### ПАВЕСІЎСЯ

Другі Ян Адамовіч, сын Яна, якога ў вёсцы звалі „рускім", жыў пад адной страхой з бацькамі, у другой палавіне хаты. Жылося яму цяжкавата. Было пяцёра дзяцей. Летам 1972 года здохла карова. Брат бацькі, а яго дзядзька прысылаў грошы з Амерыкі для свайго брата. Але бацька ніколі сыну не даў ні граша. Летам сын, Ян Адамовіч, выслаў ліст у Амерыку да багатага дзядзькі. Расказаў аб сваіх жыццёвых клопатах. Дзядзька выслаў яму грошы на карову. Але атрымаў іх ізноў аднайменнік — бацька і не аддаў гэтых грошай для сына. Сын не мог перанесці крыўды ад бацькі і ў пачатку снежня 1972 года павесіўся. Было яму тады 45 год. У хаце бяды стала яшчэ больш. Жонка яшчэ і сёння пралівае слёзы і выхоўвае адна пецярых паўсірат.

### КОНЬ ЗАБІЎ

Але і бацька, які пакрыўдзіў свайго сына, не памёр натуральнай смерцю. Вяртаўся фурманкай ён з Нараўкі. Конь-здаравяка чагосьці спалохаўся і панёс яго па равах шашы. Цяпер два Яны, бацька і сын, ляжаць побач у магілах. Толькі смерць змагла заглушыць іх варожасць.

### АТРУЦІЛІСЯ ДЗЕЦІ

31 ліпеня 1972 года ў заатэхніка Андрэя Кісялеўскага атруцілася трое дзяцей (5, 8 і 13 год). Выкліканая з Гайнаўкі хуткая дапамога прыехала не хутка. Доктар сцвердзіў аднак, што боль жыватоў дзяцей не страшны, і паехаў. Але стан дзяцей хутка пагаршаўся. Раніцай другая машына хуткай дапамогі адвезла дзяцей у шпіталь у Гайнаўку, а пазней у цяжкім стане іх адправілі ў Беласток, і там было сцверджана, што дзеці атруціліся. Дваіх малодшых дзяцей лекарам не ўдалося выратаваць. Старэйшы жыве, але ў яго пашкоджана печань. Адзін дзень нанёс сям'і Кісялеўскіх страшны жыццёвы ўдар. Чым затруціліся дзеці, не было вядома і аб гэтым у вёсцы Скупава гавораць па-рознаму да сённяшняга дня. Былі чуткі, што дзеці гулялі ў вяселле і ў нейкія бутэлькі налівалі ваду і пілі так, як гэта робяць на вяселлі. Гаварылі і аб тым, што маці часта не было ў хаце і дзядуля накарміў іх нейкімі грыбамі. Вінаватым аказаўся трактарыст Такарук. Але аб гэтым ніжэй.

 




## „ДОМ МОДЫ“ запрашае

Адрас? Калі ласка. Нічога сабе вёсачка — Вейкі. Зараз за школаю павярнуць направа. Гэта з Гарадка едучы. А там ужо, падышоўшы кусочак, вярбу мінуўшы, пра куму Салаўіху пытайце.

Бачу, не верыце. А я, любенькія, не жартую. Хутка, танна і модна.

Так. Ведаю, ведаю. Хутка, скажаце, толькі блох ловяць, танна шкуру на мядзведзю прадаюць, а модна ў сённяшні час наабяцаць залатыя горы, а пасля дулю пад нос падсунуць. А вось і не.

Жыве сабе ў Вейках пад нумарам 34 Марыя Салавей і строчыць на машыне на выбар і па заказу і нагавіцы, і блузачкі, і фіраначкі, і каптанчыкі, і ліха ведае што яшчэ. Шануе заказчыка — таму і хутка.

Шые з рэштак, якія атрымоўвае з міхалоўскага аддзела кравецкага каапeратыва „Беластаччанка“. Рэшткі, вядома, не дарагія, а ўмеючы што хочаш з іх выкамбінаваць можна. Пабачылі б з якім шыкам носяць гарадоцкія дзяўчаты квяцістыя блузачкі, шытыя з выбракаваных хустак-„шаляновак“. Каля ста зл. такая абыходзіцца. Хто скажа, што дорага, таму язык, пэўна, колам стане.

Модна, кажаце? А вам што здавалася? Думалі, што вясковая моладзь на месцы стаіць? Куды там. Адмыслова асвядомленыя хлопцы і дзяўчаты, скуль і які вецер вее. У гэтым і радыё, і тэлебачанне, і прэса, вядома, сваю заслугу маюць.

Шчыра кажучы, і я быў здзіўлены, пачуўшы, як наша зручная краўчыха са знаўствам разглядае складаную праблему, што б тут напяліць на маладога чалавека: швэды, паўшвэды, ці, скажам, званы якіясьці. Гэта ўжо было не звычайнае заказванне портак, а амаль навуковая кансультацыя. Так і мільгалі цыфры будучай шырыні клешняў і яшчэ чагосьці там.

А пра жанчын і гаварыць няма што. Ні на адной канферэнцыі не дыскутуюць бурна і з такім веданнем справы, як кабеткі, сабраўшыся ў хаце Марыі Салаўёвай над толькі што атрыманай партыяй новага тавару. Пабялелі б з зайздрасці працаўнікі праектных установаў, убачыўшы, з якім размахам, фантазіяй, ад рукі, крэсляцца планы будучых выразаў, разрэзаў, таліі і акругласцей.

І з выканаўствам, не раўняючы да некаторых прадпрыемстваў, як ужо пісаў, няма ніякай затрымкі.

Так, так. Угу.

А хто не верыць, няхай праверыць.

Адрас вядомы, аўтобус амаль на месца даходзіць. Гасцінная хата ўсім рада. Хутка, танна і модна — зусім як не на гэтым свеце.

Вейкаўскі дом моды „Пад Вярбою“ запрашае.

**Ларс**

Школьная арганізацыя ТППР у Гайнаўскім беларускім ліцэі мае амаль столькі год, што і школа. Членамі ТППР з'яўляюцца тут усе вучні. Працуюць па плану, складзеным праўленнем школьнага гуртка.

У 50 гадавіну СССР яны арганізавалі папулярна-навуковую сесію. Школьная арганізацыя ТППР вядзе групу любіцеляў рускай мовы. Яе ўдзельнікі рыхтуюцца да штогадовай алімпіяды рускай мовы. Лаўрэатам школьных элімінацый гэтай алімпіяды стаў Янка Лабазінскі з беларускага ліцэя. Ён паедзе на ваяводскія элімінацыі алімпіяды.

## АКТЫЎНА І САРДЭЧНА

Члены ТППР з беларускага ліцэя рыхтуюцца таксама да VI агульнапольскага дэкламатарскага конкурсу школьных гурткоў ТППР. У павятовых элімінацыях конкурсу прымуць удзел 4 асобы з ліцэя: Ірэна Навацкая — клас I„в“, Ірэна Малмышка і Пётр Дзенісюк — кл. III„в“, Ніна Пытэль — кл. II„а“. 70 прац. членаў ТППР з ліцэя вядзе перапіску з сябрамі ў СССР, а кожны вучань падпісаўся ў 1974 г. хоць на адну савецкую газету.

Штогод у ліцэі арганізуюцца ўрачыстыя вечары, прысвечаныя Кастрычніцкай рэвалюцыі, савецкім узброеным сілам, з нагоды свята касманаўтыкі, гадавіны нараджэння У. І. Леніна.

Школьны гурток ТППР супрацоўнічае з аддзелам БГКТ у Гайнаўцы. Многія вучні з'яўляюцца старшынямі і сакратарамі гурткоў БГКТ у сваіх вёсках.

Душой школьнай арганізацыі ТППР з'яўляецца выкладчыца Яўгенія Буйноўская.

**В. Бура**



### ГАЛЕНА КУРЧЭЎСКАЯ

Галена Курчэўская ўжо 7 год працуе прадаўшчыцай у кіёску „Рух“ нумар 102 у Саколцы. Быў ён у горадзе адзін з першых. Цяпер жыхары Саколкі купляюць у ім тавары на суму 70-75 тысяч злотых у месяц. Пані Галена Курчэўская мае 80 пастаянных пакупнікоў прэсы.

У кіёску кожны тыдзень можна купіць свежую „Ніву“. Прадаўшчыца сама заахвоціла купляць наш тыднёвік каля дзесяці асоб. Пані Курчэўская — гэта сардэчная і працавітая жанчына. Жадаем ёй поспехаў у працы і асабістым жыцці.

**Тэкст і фота Я. Ц.**

## ФАЛЬКЛОР

*ЖАРТОЎНАЯ*

Moderato




*— Калі будзеш уміраці, сівы мой дзядочку?*
*Калі будзеш уміраці, сівы галубочку?*
*— А ў сераду, бабачка, а ў сераду, любачка,*
*А ў сераду, ты, мая сівая галубачка.*
*А ў сераду, ты, мая сівая галубачка!*
*— З кім я буду жыці, сівенькі дзядочку?*
*З кім я буду жыці, сівы галубочку?*
*— А з кіёчкам, бабачка, а з кіёчкам, любачка,*
*А з кіёчкам ты мая, сівая галубачка.*
*А з кіёчкам ты, мая сівая галубачка!*
*— Скуль кіёчка ўзяці, сівы мой дзядочку?*
*Скуль кіёчка ўзяці, сівы галубочку?*
*— А з лясочка, бабачка, а з лясочка, любачка,*
*А з лясочка, ты, мая сівая галубачка.*
*А з лясочка, ты, мая сівая галубачка!*
*— Чым яго зрубаці, сівы мой дзядочку?*
*Чым яго зрубаці, сівы галубочку?*
*— Сякеркаю, бабачка, сякеркаю, любачка,*
*Сякеркаю, ты, мая сівая галубачка.*
*Сякеркаю ты мая, сівая галубачка!*
*— Скуль сякеркі ўзяці, сівы мой дзядочку?*
*Скуль сякеркі ўзяці, сівы галубочку?*
*— А ў каваля, бабачка, а ў каваля, любачка,*
*А ў каваля, ты, мая сівая галубачка.*
*А ў каваля, ты, мая сівая галубачка!*
*— Каваль так ні дасць мне, сівы мой дзядочку.*
*Каваль так ні дасць мне, сівы галубочку.*
*— За грашыкі, бабачка, за грашыкі, любачка,*
*За грашыкі, ты, мая сівая галубачка.*
*За грашыкі, ты, мая сівая галубачка!*
*— Скуль грошыкаў узяці, сівы мой дзядочку?*
*Скуль грошыкаў узяці, сівы галубочку?*
*— Пад прыпечкам, бабачка, пад прыпечкам, любачка,*
*Пад прыпечкам ты, мая сівая галубачка.*
*Пад прыпечкам, ты мая, сівая галубачка!*

Ад Варонка Анелі, 75 год, Варонка Тэафіліі, 75 год, і Варонка Анны, 28 год, вёска Снічаны, гміна Сідра, Сакольскага павету, запісаў 27 снежня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

### ПРЫГАВОР НА ТАКАРУКА

Вырашаць, хто вінаваты, у гэтым выпадку не справа журналіста. Аднак прывяду я словы з лісту Янкі Такарука да міністра справядлівасці.

„Мне 20 год. У 16 год пачаў працаваць я трактарыстам у сельгасгуртку ў Скупаве... У перыяд барацьбы са стонкай у 1972 усе мы, трактарысты, апырсквалі бульбу згодна з атрыманай намі інструкцыяй. Я рабіў апырскванне 6, 7 і 10 ліпеня 1972 года. У той час рабілі апырскванне гаспадары суседніх вёсак, а таксама трактарысты з сельгасгуртка ў Заблоччыне і ў надлясніцтве Нараўка. Трое дзяцей Андрэя Кісялеўскага затруцілася 31 ліпеня... У выніку следства пракуратуры ў Гайнаўцы была накіравана супраць мяне справа ў суд. Першая справа ў павятовым судзе адбылася 9 лютага 1973 года. Суд адкажыў яе і публічны вінаваўца зрокся далей займацца маёй справай. Грамадзянін Кісялеўскі далей выступаў супраць мяне. Адбылося 7 пасяджэнняў суда і ўсе яны выказвалі маю невіноўнасць. Аднак 15 чэрвеня 1973 года павятовы суд у Бельску засудзіў мяне на 2 гады і 500 зл. штрафу, матывуючы гэта тым, што астаўшыся ў жывых 13-гадовы Багдан Кісялеўскі сцвердзіў, быццам бы пасля маіх апырскванняў збіраў папяровыя торбачкі і перахоўваў у іх бутэрброды, якія пасля еў. Рэвізійны суд у Беластоку зацвердзіў прыгавор першай інстанцыі суда... Разумею я боль і гора бацькоў, якія пахавалі двое дзяцей, але мае пакуты жывога чалавека, ні ў чым невіноўнага, з'яўляюцца страшэнна несправядлівымі“.

Вось якія складаныя справы. Янка Такарук атрымаў паведамленне ісці ў войска. Пачаў рыхтаваць з бацькамі традыцыйны развітальны пачастунак. А тут прыходзіць другое паведамленне — ісці ў турму.

### НЯШЧАСЦІ КАЗБЯРОВІЧАЎ

Іван Казбяровіч, солтыс вёскі Скупава, дабрэйшы чалавек, мае шмат бяды. У жніўні 1973 года ў стадоле веяў ён насенне травы. Сямігадовы сын быў пры ім і ўсадзіў руку ў вентылятар, і вентылятар гэту руку вырваў з целам. Аднойчы вяртаўся ён фурманкай ад сына са шпіталя з Гайнаўкі. На шашы каля Завадзецкіх выскачыла аглобля і паламала гаспадару нагу так, што косці павылазілі наверх. Але гэта яшчэ не ўсё. Яго хваравітая дачка, якую ён папавазіў па лекарах, несла свінням есці і таксама зламала нагу так, як бацька. Іван Казбяровіч часта са слязамі ў вачах гаворыць, што крыўдзіць яго лёс. А ён жа ў жыцці нікому нічога дрэннага не зрабіў.

*

Вось як няроўна дзеліцца лёсам шчасце і няшчасце людзей.

**Міхась Хмялеўскі**

## Заблудаўскія несесеры

Прадпрыемства скураной галантэрыі ў Заблудаве Беластоцкага павету выпускае на рынак несесеры і актоўкі розных размераў і колераў. Любяць іх не толькі нашыя, але і замежныя пакупнікі. У гэтым годзе прадпрыемства даставіць 43 тысячы несесераў. Палавіна гэтай прадукцыі пойдзе на экспарт.

**Тэкст і фота Я. Ц.**



*З галантэрэйнымі вырабамі знаёміць кіраўнік прадпрыемства ў Заблудаве Рамуальд Кетко.*

Пачатак на стар. 1

## Насустрач юбілею

павінна павялічыцца ў сем разоў прамысловая прадукцыя, у два разы сельскагаспадарчая прадукцыя, у пяць разоў павялічыцца ўклад Беласточчыны ў агульны дабрабыт, кожная сям'я будзе мець адпаведную кватэру.

Гэта праграма рэальная. У ёй ёсць месца для кожнага жыхара ваяводства.

Немалая тут роля і Беларускага таварыства. Як гаварыў на сесіі ВК ФАН старшыня ГП БГКТ М. Самоцік, таварыства будзе развіваць сярод сваіх членаў пачуццё асабістай адказнасці, развіваць дзейнасць на карысць дэмаграфічнай інтэграцыі, будзе папулярызаваць традыцыю і народнасць. Арганізуючы конкурсы, таварыства будзе арганізоўваць аматарскія харавыя і тэатральныя калектывы. У юбілейным годзе БГКТ будзе арганізатарам і суарганізатарам народных фэстынаў, прапагандуючых дасягненні 30-годдзя, а таксама ўключыцца ў конкурсы „Гміна — майстар гаспадарнасці“, „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“, „Жыхары свайму гораду“.

Справы, звязаныя з 30-годдзем народнай улады, будуць разглядацца на пленуме Галоўнага праўлення БГКТ, які намеціць канкрэтную праграму і паставіць заданні перад членамі і гурткамі таварыства.

**А. К.**



 

•

*Срэбрны месяц па небе плыве,*
*Хаты спяць у цішы...*
*Крочыць ценъ юнака па сяле,*
*Ціха лісце шуршыць.*

*Вёска спіць, а юнак ідзе,*
*Зоры вісяць над ім...*
*Сэрца хлопца б'ецца мацней,*
*Сэрца ў роздуме.*

*Вецер думы нясе ўдаль,*
*Тэлефоны гудуць...*
*Ціха песню шэпча каштан,*
*Падпявае дуб.*

*Сэрцу юнаму не стрымаць*
*Чару музыкі...*
*Не крануць грубаватых хат*
*Ночы водгукі.*

*Срэбрны месяц за хмары зайшоў,*
*Ночы чэрнь гусцей...*
*Заўтра, заўтра будзе „адбой“.*
*Верыш? — Веру. Вер!*

**Мікалай Варанецкі**




**КРАМА І КАРЧМА Ў ЯНОВЕ**

У нашай краме ў Янове
Іх таргуе аж трое:
Бацька, маці, ды дачка
Клічуць к сабе мужычка.
Бацька кажа, колькі піў,
Дачка хутка важыць сыр,
А ты, маці, па каструльку
Дамоў хуценька бяжы.
Маці хутка абярнулась
Ды й з каструлькаю вярнулась.
— Ну дык, — кажа Мікалай, —
Ты хутчэй кантакт ўключай.
Тых кліентаў было трох,
Ўзялі піва дзюжынок
— Грэйся, піва, грэйся, піва —
Коля ложкаю мяшае,
Ды пра цукар ўсё гадае.
— Колькі цукру? — кажа ён.
— Сып тры ложкі, ды чубаты!
— Колькі будзем вінаваты?
Мы цяпер плаціць не будзем —
Запішы нас у чорну кніжку —
Знаеш — Кольку, Ваньку, Мішку.
Жэнька з радасці смяецца,
Што ў таргу ёй ўдаецца.
„Хлопцы парасят прададуць
І мне грошы аддадуць“.
Па файранце ў іхняй хаце
Закурыць можна купіць дзіцяці,
А старэйшаму віно, і не адно...
Трактары ўсю ноч пукацяць,
Каля карчмы ўсё стаяць.
А жонкі мужыкоў ругаюць
І скляповых праклінаюць,
Каб тая карчма згарэла
Як нам жыццё надаела!
А яны, як бы й не чуюць,
І далей сабе таргуюць.

**Дзям'ян Самайлюк**

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА

# Агляды творчасці кіналюбіцеляў

Багатая і разнародная савецкая рэчаіснасць. У буднях штодзённых спраў нараджаюцца подзвігі радавых працаўнікоў горада і вёскі. Зразумела, такія факты не могуць не заўважыць кіналюбіцелі, якіх з году ў год прыбывае.

Нядаўна Гродзенскі абласны савет прафсаюзаў пад дэвізам: „Табе, радзіма, наша натхнёная праца!“ правёў агляд творчасці кіналюбіцеляў. Было прадстаўлена 18 кінастужак. І ўсе яны цікава і своеасабліва паказваюць урыўкі з жыцця рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі прынёманскага края. Многія працы сведчаць аб тым, што ў іх укладзена не толькі фантазія, але і часцінка душы кіналюбіцеля.

Першае месца прысуджана кінафільмам „Сказ аб сельскай настаўніцы“ і „Біялагічны кабінет“. Аўтары — работнікі народнай асветы М. П. і Л. В. Чарнілоўскія. Першы фільм расказвае аб паэзіі працы сельскай настаўніцы С. В. Качук з Зельвенскага раёна, другі — аб творчасці педагога школы № 5 горада Гродна заслужанай настаўніцы БССР К. І. Агурцовай.

Два другія месцы занялі кінастужкі „Палюбіць вецер“ (аб абласным клубе яхтсменаў) і „Свет пад нагамі“ (каляровая кінанавела аб жыцці карысных насякомых). Аўтары — урач клінічнай бальніцы № 1 горада Гродна В. М. Радзіловіч і кінаапаратар абласной студыі тэлебачання Г. В. Гулеўскі.

„Хроніка юбілейнага года“ — гэта хвалюючы расказ аб бітве за хлеб працаўнікоў саўгаса „Звязда“ Гродзенскага раёна. Аўтар — настаўнік Скідэльскай школы В. І. Гуліда. „Адна трэніроўка“ — замалёўка аб сумеснай працы заслужанага трэнера СССР Р. І. Кныша і алімпійскай чэмпіёнкі па спартыўнай гімнастыцы Вольгі Корбут. Стваральнік фільма — заведуючы фоталабараторыяй Гродзенскага медінстытута Н. П. Апалькоў. Гэтым кінастужкам прысуджана трэцяе месца.

Тут жа прадэманстравалі свае работы і кіналюбіцелі, што аб'ядналіся пры абласным навукова-тэхнічным таварыстве. Лепшымі прызнаны кінастужкі „Тэхнічны прагрэс у сельскім будаўніцтве“ (першае месца, аўтар — Г. М. Юрэвіч). Другое месца заняла кінастужка „Энергетыка Прынёмання“, стваральнік фільма — А. А. Загнетаў. Другое месца прысуджана таксама кінастужцы А. М. Ляховіча „Заслужаны рацыяналізатар“. Трэцяе месца заняў фільм Л. В. Чарнілоўскага „Калі след усечаны ў жыццё глыбока“.

Апошні агляд творчасці кіналюбіцеляў вобласці яшчэ раз паказаў, што ў самадзейных кінарэжысёраў, сцэнарыстаў, апаратараў шмат цікавых задум.



# Сустрэча з Вуячычам

Яго імя вядома шматлікім аматарам савецкай песні за рубяжамі Савецкага Саюза. Віктар Вуячыч спявае менавіта тое, што хвалюе сёння слухача, што выклікае ў яго добры настрой, што цешыць. Асабліва блізкая выканаўцу грамадзянская тэма — у рэпертуары яго многа песень патрыятычнага гучання. Асаблівае месца займаюць песні Ігара Лучэнкі. „Візітнай картачкай“ Віктара Вуячыча можна назваць спецыяльна напісаную для яго песню „Верасы“ на словы Максіма Танка.

На здымку: лаўрэат Усесаюзнага і міжнароднага конкурсаў, заслужаны артыст БССР Віктар Вуячыч выступае ў Гродна.

**Фота Я. Краўчанкі**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У час камасацыі была ўстаноўлена дарога для даезду да сенажаці. Дарога праходзіць праз сенажаці, а паколькі равы замуціліся і зараслі травой, дарога стала амаль непраезднай, асабліва вясной і ўвосень. Пераганяць быдла на сенажаць стала вельмі цяжка. Быдла можна было б выгадна пераганяць праз поле суседа — сенажаць у гэтым выпадку знаходзілася б толькі ў 200 метрах ад панадворка, тады, калі дарогай трэба ісці больш кіламетра. Аднак сусед не дазваляе пераганяць быдла праз яго поле. Ці можна патрабаваць вызначэння дарогі праз поле суседа за грашовую кампенсату?

АДКАЗ: Паводле закону, калі нерухомая маёмасць не мае адпаведнага доступу да публічнай дарогі, яе ўласнік мае права патрабаваць ад уласнікаў суседскіх зямель устанаўлення за грашовую кампенсату патрэбнай дарогі. Інтэрпрэтаваць закон у шырокім значэнні нельга. Справа ясна, калі да нерухомай маёмасці або будынкаў зусім няма доступу. Аднак, калі доступ ёсць, хаця і звязаны з невыгодамі або дадатковымі расходамі, то суды асцярожна адносяцца да патрабаванняў вызначэння дарогі. Гэта звязана з грамадскай патрэбай выкарыстоўвання кожнай пядзі зямлі, колькасць якой абмежавана, ды, зрэшты, суседу дарога можа перашкаджаць належна весці ўчастак зямлі і могуць узнікнуць суседскія спрэчкі ў выніку карыстання з гэтай дарогі. Таму мала верагодна, што ў даным выпадку суд згодзіцца на ўстанаўленне дарогі праз поле суседа.

## Куток практычных ведаў




**КАБ У СЯМ'І БЫЛО ЛЕПШ.**

Для існавання добрай сцэментаванай сям'і вельмі істотнай справай з'яўляецца сексуальнае жыццё. На жаль, часта яшчэ жанчына не мае сатысфакцыі ў гэтым. Вынікае гэта з анкетных доследаў, якія праводзяць сацыёлагі і псіхолагі, а таксама з вопыту лекараў розных спецыяльнасцей. Жанчыны часта ідуць да гінеколагаў, эндакрынолагаў, неўролагаў і псіхіятраў, але вельмі рэдка да сексуолагаў, якіх пакуль яшчэ не так многа. Ды, зрэшты, працэнт жанчын, якія трапляюць да доктара з прычын недахопу сексуальнай сатысфакцыі, з'яўляецца непараўнальна нізкі. На гэта ўплывае шмат фактараў, між іншым, можа гэта быць недахоп часу на лячэнне, псіхічныя хваробы; некаторыя жанчыны не звяртаюць занадта вялікую ўвагу на сексуальнае жыццё, а іншыя проста не вераць у дапамогу доктара і не маюць ахвоты ўводзіць чужых людзей у сваё інтымнае жыццё.

З жанчынамі, якія прыходзяць усё ж да доктара, бывае па-рознаму. Часамі толькі пасля некалькіх візітаў доктар можа ўбачыць усе негатыўныя моманты, якія тармозяць сексуальныя рэакцыі пацыенткі. А здараецца і так, што найбольш вопытнаму доктару не ўдаецца выкрыць сярод розных прычын недахопу сатысфакцыі прычыны найбольш істотнай.

Пацыентка, якая звяртаецца да доктара, часта жадае толькі таго, каб ён направіў яе сексуальныя рэакцыі. Пры больш глыбокім аналізе аказваецца, што ў даным выпадку яна не мае ніякіх пачуццяў да свайго партнёра. Часамі дыспрапорцыя паміж пачуццямі і фізічнай рэакцыяй пры першых зносінах альбо страх перад цяжарнасцю могуць таксама затармазіць пазітыўную рэакцыю ў часе зносін. У псіхіцы многіх жанчын засталіся яшчэ выхаваўчыя памылкі іх матак, альбо не найлепшая атмасфера ў сям'і, у якой яна расла. Датычыцца гэта неадпаведных адносін паміж яе бацькамі, унушання памылковага паняцця аб граху і негатыўных адносін да мужчын.

Выпадкі „халодных“ жанчын можна падзяліць на дзве групы: анаргазмія і сексуальнае неразбуджэнне. Анаргазмія датычыцца жанчын, якім з'ява аргазму не чужая, але ў сужыцці з даным партнёрам сатысфакцыі яна не мае. Сексуальнае неразбуджэнне датычыць тых жанчын, якія ніколі не мелі сатысфакцыі ў зносінах з мужчынам і гэтая з'ява ім зусім чужая.

**Эскулап**




Стася вярнулася ў свой пакойчык, лягла і ўкрылася з галавой цёплаю коўдрай. Яна пакрысе сагрэлася, але сон не прыходзіў. Жыццё ў апошні час зусім заблыталася, і чым больш Стася спрабавала разабрацца ў гэтай блытаніне, тым менш разумела. Яна думала пра сваіх братоў. Старэйшы, рыжы Уладык, быў забіяка, задзіра, але малодшую сястрычку ніколі не крыўдзіў, хоць і не вельмі шкадаваў. Ён яе проста не заўважаў — дзяўчынка, пігаліца. А яна, як амаль усе сёстры, абажала старэйшага брата. Уладык у яе вачах быў увасабленнем сілы, рашучасці, мужнасці. І нават яго пагардлівыя адносіны да яе дзяўчына расцэньвала як адзнаку суровага, упартага чалавека з цвёрдым характарам. З Уладыкам лічыўся і нават пабойваўся яго бацька, чалавек уладарны, натурысты і які не цярпеў пярэчанняў.

А другі брат, Людвіг, быў на два гады маладзейшы за Уладыслава. Жвавы, цікаўны і прыгожы хлопчык, ён вельмі быў падобны на яе, на Стасю, і моцна любіў сястру. Стася адказвала яму тым жа. З Людвігам ёй заўсёды было лёгка і весела. І калі яе крыўдзілі, калі ёй было сумна, яна бегла да Людвіга, упэўненая ў тым, што ён ёй дапаможа.

Маці сваёй Стася не памятала, браты замянялі яе. Жылі ўсе дружна, добра, а цяпер... Стася даўно зразумела, што шляхі братоў разышліся. Калі ў трыццаць дзевятым фашысцкія полчышчы рвануліся на Польшчу, абодва яны пайшлі ваяваць супраць гітлераўцаў. Уладыслаў атрымаў зоркі паручніка, Людвіг застаўся радавым. А пасля разгрому Людвіг апынуўся ў Расіі, а Уладыслаў пайшоў у лес. Аднаго разу ён з'явіўся ў Кудароўшчыне на чале невялікага, але добра ўзброенага атрада. Казалі, што яны не склалі зброі і б'юць фашыстаў. Стася ганарылася братам. Але вось фашыстаў пагналі, а Уладыслаў не выйшаў з лесу. Гэта было незразумела. Ён неяк сказаў, што Саветы для Польшчы яшчэ горш, чым немцы, і іх нельга пускаць на польскую зямлю. Але чаму ж? Савецкія салдаты б'юць нямецкіх фашыстаў — заклятых ворагаў Польшчы, значыць, яны сябры палякаў.

Пра Людвіга не было ніякай чуткі. А вось зусім нядаўна ён прыслаў пісьмо і фотакартку. Бравы капітан Войска польскага ў традыцыйнай канфедэратцы глядзеў з фотаздымка. Стася скакала ад радасці, а бацька з Уладыславам пахмурна маўчалі. Стасю здзівіла абыякавасць бацькі і старэйшага брата. Бо Людвіг быў жывы, здаровы і меў такі прыгожы выгляд.

Людвіг пісаў, што служыць у дывізіі Войска польскага, камандуе мінамётнай батарэяй, разам з войскамі Савецкай Арміі вызваляў Беласток, а цяпер — пад Варшавай. Узнагароджаны савецкім ордэнам Айчыннай вайны і польскім крыжам Грунвальда. Паведамляў, што, магчыма, прыедзе дамоў на пабыўку, бо тут недалёка, а на фронце зацішша.

— Лепей бы яму тады не вярнуцца з-пад Лодзі, — злосна сказаў Уладыслаў, — лічылі б, што памёр за Польшчу.

— А цяпер хіба ён не за Польшчу? — спытала Стася.

— Чорт яго ведае за каго, толькі не за Польшчу, — адказаў былы паручнік.

Стася зразумела, што браты сталі ворагамі. Але чаму?

Яна ўспомніла савецкага капітана і ўсміхнулася. Ён нагадваў Людвіга і падабаўся ёй. Толькі вельмі ўжо нейкі суровы і заклапочаны. Відаць, нага ў яго баліць — ранены і кульгае. Але ўсё-такі можна ж быць трошачкі ласкавейшым. А той адчаянны хлопец проста праходу не дае. Нават бульбу прыйшоў абіраць, дзівак. А той другі афіцэр, са смешнымі вусамі, вельмі добры і разумны. Размаўляе па-нямецку і па-польску. Вось каб і капітан быў такі добры, тады...

Стасі стала горача. Яна высунула галаву з-пад коўдры. У вузенькае акенца прасочвалася шэрае світанне.

Нічога, усё як-небудзь абыдзецца. Вось прыедзе Людвіг і ўсё растлумачыць. А можа распытаць у капітана або ў таго афіцэра з вусамі? Не, Веслаў строга-на-строга забараніў гаварыць пра яго з савецкімі афіцэрамі, інакш будзе бяда. Сённяшні прыход Веслава паказаў, што гэта сапраўды так. А можа Веслаў ужо забіты?.. Стася халадзее ад гэтай думкі і зноў укрывае галаву коўдрай.

Якое ўсё-такі жорсткае жыццё, чаму абавязкова трэба рашаць такія непасільныя для чалавека задачы? Абавязкова кагосьці любіць, а некага ненавідзець? Чаму нельга любіць усіх?

Стася сагрэлася і нарэшце заснула.

(Працяг будзе)

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Выбары солтыса ў Спічках

У будынку, дзе калісьці была школа, у лютым адбыўся сход жыхароў вёскі Спічкі. На сходзе прысутнічалі прадстаўнікі гміны Орля. Людзі выбіралі солтыса і падсолтыса. Дзевяць год і сем месяцаў солтысам у Спічках праслужыў Сяргей Гапуновіч. Гэта быў вельмі добры солтыс. Ён ветліва адносіўся да моладзі. Умеў з кожным пагаварыць, дбаў пра парадак у вёсцы.

На агульным вясковым сходзе галасавала 65 асоб. Солтысам выбралі зноў Сяргея Гапуновіча, а падсолтысам Мікалая Хаманскага. Пасля выбараў прысутныя гаварылі на розныя гаспадарчыя тэмы.

**Васіль Асеннік,**
вуч. Бельскага беларускага ліцэя

## Фальклярысткі з Тапчыкал у ролях гаспадынь

Жанчыны з фальклорнага калектыву ў Тапчыкалах — гэта прыклад для ўсіх. Яны не толькі займаюцца культурнымі справамі, але з'яўляюцца таксама добрымі гаспадынямі. Яны пастаянна паглыбляюць свае веды па хатняй гаспадарцы. У студзені яны арганізавалі кулінарны курс. Асабліва добра і прыгожа падрыхтавалі салаты з капусты. Вечарынка на заканчэнне курсу была вясёлай. Прысутным вельмі смакавалі падрыхтаваныя курсантамі блюды. Жанчыны спявалі свае задушэўныя песні.

Тапчыкалаўскія жанчыны працуюць добра і адпачываюць культурна.

**Суседка**

## Дарога смерці ў Скрабляках

Дарагая рэдакцыя! Пішу ад імя ўсёй вёскі Скраблякі. Наша вёска мае вялікую бяду. Вось, едучы ў Гарадок, чалавек няўпэўнены, ці жывы-здаровы даедзе. Справа ў тым, што ўжо ад вясны 1973 года Варшаўскае акруговае газавае прадпрыемства парасцягвала, параскідала па дарогах газавыя трубы. Яны ляжаць на дарозе, і няма як ні прайсці, ні праехаць. Пакапалі на дадатак на 1,5 м. глыбокія равы і на тым закончылі сваю працу.

Людзі праклінаюць, бо ламаюць рукі і ногі. Некалькі тыдняў таму назад гаспадар Аляксандр Дудэнка, едучы з жонкай у Гарадок, перакуліўся санямі на тых трубах і равах, прыдушыў жонку клеткай з вепруком, а ў выніку што? Жонка пакалечылася, зламала руку і тры тыдні ляжала ў шпіталі. Тыдзень пазней Хведар Налівайка вёз вепрука на пункт скупкі і таксама перакуліўся. Вяпрук вырваўся і ўцёк у лес. Паўдня ганяўся гаспадар па лесе, пакуль не ўгнаў вепрука зноў у клетку.

Мы пытаем: калі ўрэшце Варшаўскае акруговае газавае прадпрыемства закончыць сваю працу і ліквідуе дарогі смерці?

**Павел Налівайка**
Скраблякі

## Зямля чакае гаспадара

Звыш 4 тыс. га незагаспадараванай зямлі ў гміне Гарадок. Шмат больш, чым у іншых гмінах. Чаму?

Тут можна дашукацца двух прычын. Раз — што зямля слабая, пятага, пераважна, класа, а па-другое — шчыра кажучы, няма каму сёння яе ўжо абрабляць.

Праязджаеш праз пагранічныя вёскі, такія, як Баброўнікі, Свіслачаны, Мастаўляны і іншыя, глядзіш, што амаль у палове хат вокны наглуха дошкамі забіты. Ды і ў тых, дзе яшчэ жыве дзе-хто, моладзі не дашукаешся. Хіба што летам, калі пачынаюць з'язджацца, хто скуль, на канікулы і ў водпуск. А так толькі старыя засталіся. Дзе ім? Нават у Лужанах і Зубрах, дзе зямельны кааператыў і большая механізацыя, працоўнай сілы не хапае.

Як асвоіць, як загаспадарыць нявыкарыстаныя дагэтуль землі?

Існуе план, каб на нявыкарыстаных землях над рэчкай Свіслаччу (3.000 га) стварыць ПГР, які б спецыялізаваўся ў гадоўлі авечак. Справа карысная, і што важна, мала працоўнай сілы патрабуе. Гэта адзіны сэнсоўны выхад. Таму будзем спадзявацца, што раней ці пазней збудуцца планы, рушыць прадукцыя з незагаспадараваных дагэтуль гектараў. Зямля чакае. Яна чакае гаспадара.

**Мік**

У гонар 56-ай гадавіны

## Салдацкі вечар

У салдацкай святліцы ў Беластоку адбыўся вечар, прысвечаны 56-ай гадавіне Савецкіх узброеных сіл і ваеннамарскога флоту. На ўрачыстасці прысутнічала дэлегацыя Паўночнай групы Савецкай Арміі. Былі гарцэры, настаўнікі і дырэкцыя пачатковай школы № 6 у Беластоку.

Было ўзнагароджанне салдат адзнакамі „Узорны салдат". Пасля адбылася прысяга гарцэраў школы № 6. У мастацкай частцы выступілі салдаты і школьнікі. Гарцэры ўручылі гасцям букеты кветак.

## Яе слава баявая

У клубе „Міленіум" раёна „Тысячагоддзя" ў Беластоку адбыўся вечар, прысвечаны 56-ай гадавіне Савецкай Арміі. На ўрачыстасці прысутнічала многа моладзі і дарослыя рознага ўзросту — усе з нашага квартала.

Пра баявую славу і мірнае жыццё Савецкай Арміі расказаў прысутным Тадэуш Шлензак. У мастацкай праграме выступілі вучаніцы медыцынскага ліцэя ў Беластоку, якія паказалі мантаж „Чырвоная Армія". Пасля адбыўся канцэрт калектыву з клуба „Гермес" пад кіраўніцтвам Сцяпана Чарнецкага — спявалі савецкія песні.

**Васіль Петручук**

## Падзялілі

У сяле Крывяцічы моцна адчуваецца недахоп угоддзяў. Існуючыя лугі былі асушаны дзякуючы меліярацыі і цяпер сяляне выкарыстоўваюць іх для пасеваў пшаніцы і вырошчвання буракоў. Каб павялічыць жывёлагадоўлю, сяляне Крывяціч падзялілі паміж сабой каля 300 гектараў лесу — няўгоддзяў. Кожнаму прыпала больш-менш па 2 гектары. І вясной гэтага года Крывяцічы пачнуць загаспадарваць падзеленыя часткі, прызначаць іх на зялёныя ўгоддзі.

**Іван Кірызюк**




**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне ўжо споўнілася 22 гады. Жыву я на вёсцы і разам з бацькамі працую на гаспадарцы. У мінулым годзе я пабываў на забаве ў суседняй вёсцы і там пазнаёміўся з дзяўчынай з гэтай жа вёскі. Вельмі мне яна спадабалася. Увесь вечар з ёю гуляў і ад тае пары мы спатыкаліся вельмі часта. Цяпер спатыкаемся радзей, бо Нінка вучыцца ў горадзе Б. у сярэдняй школе. У суботу яна прыязджае дамоў і ўжо гэты час абавязкова мы праводзім разам. Сябруем мы вельмі згодна, яшчэ ані разу не пасварыліся. Яна не цікавіцца іншымі хлопцамі, а я дзяўчатамі. Мне няма прыгажэйшай дзяўчыны за яе. Задумаў як найхутчэй з ёю ажаніцца, але вось яна не згаджаецца, хоць ведаю, што кахае мяне. Гаворыць, што перш мусіць закончыць школу, а тады ўжо і аб замужжы можна будзе падумаць. Мне аднак не хочацца так доўга чакаць, ды не магу рашыць, што рабіць, ці чакаць Нінку, ці мо ажаніцца з якой-небудзь іншай дзяўчынай? Парай, „Сэрцайка"!

**Вася з А.**

Вася! Я бачу, што табе не церпіцца. Але жаніцьба — справа вельмі сур'ёзная, а ты, відаць, не здаеш сабе з гэтага справы, калі прыходзіць табе ў галаву, каб ажаніцца нават з абы-якой дзяўчынай, пакідаючы каханую, каб толькі хутчэй. Ды й выйдзе, як у той пагаворцы: „Паспяшыш — людзей насмяшыш". Так ажаніўшыся, жыццё сямейнае табе вельмі хутка знудзіцца, бо няма ў ім падставовага элемента, які цэментуе яго — кахання. І табе ізноў у халасцякі захочацца вярнуцца. А гэта ўжо справа даволі складаная. Таму, Вася, пакуль не ўпэўнішся, што дзяўчыну шчыра кахаеш, ды не пераканаешся ў сталасці сваіх пачуццяў да яе, не жаніся! А на гэта патрэбны час. І вось пакуль Нінка закончыць школу, вы абое зможаце пераканацца, ці вашы пачуцці дастаткова трывалыя, каб залажыць сям'ю.

Жадаю цярплівасці!
**„Сэрцайка"**

## 20 год вернай службы

Станіслаў Кузьміцкі больш 20-ці год з'яўляецца прэзасам гмінны спулдзельні ў Сідры. Ён добра ўмее кіраваць працай, усюды парадак. Мае вялікі аўтарытэт у людзей і ў сваіх працаўнікоў. Не выяўляецца ў яго ганарыстасць, „што то я — прэзас". Умее наладзіць добрае супрацоўніцтва з сельгасгуртком, гмінай, гмінным камітэтам ПАРП. Прэзас Кузьміцкі моцна стаяў за тое, каб у Сідры пабудаваць пякарню, гандлёвыя павільёны, будынак бюро для ГС-у, гасподу.

У 1954 знайшліся ў Сідры людзі, якім захацелася змяніць прэзаса. Выбралі іншага, які толькі год пабыў. А потым на сходзе членаў адклікалі яго. Выбралі зноў Станіслава Кузьміцкага. Ад таго часу бесперапынна з'яўляецца ён прэзасам ГС у Сідры.

Наш прэзас вельмі клапоціцца пра клубы на сваёй тэрыторыі. Жадаем яму поспехаў у далейшай працы і развіцця ГС у Сідры.

**Т. К.,**
Сідэрка

## Клуб у Тапалянах

У лютым у Тапалянах быў адкрыты клуб селяніна. Будынак, які амаль 30 год страшыў людзей, быў адрамантаваны і добра абсталяваны. Цяпер тут, у клубе, з прыемнасцю можна правесці вечар. Варта адзначыць, што наведвальнікаў у клубе шмат. Адны чытаюць часопісы, іншыя глядзяць тэлевізар, а некаторыя гуляюць у розныя настольныя гульні.

**Мікола Краўчук**

## Як направіць дарогу?

Едзеш, чытач, у Гайнаўцы вуліцай Ліповай у напрамку Белавежскай пушчы. Пастой, хачу папярэдзіць цябе, што ў кіламетры за горадам трапіш на такую разбітую дарогу, што ніякай машынай не праедзеш.

А гэтай жа дарогай ездзяць жыхары навакольных вёсак у лес на вывазку. Сапраўды, не здзіўляюць іх скаргі на мясцовыя ўлады.

Направіць гэты кусок дарогі лёгка, але няма каму пра гэта паклапаціцца. Упраўленне гміны ў Гайнаўцы лічыць, што гэта дарога належыць да горада. А Гарадское ўпраўленне ў Гайнаўцы мае столькі неўпарадкаваных вуліц у горадзе, што пра гэту дарогу яны не думаюць.

Ведаючы тутэйшыя магчымасці, прапаную Гарадскому ўпраўленню: на разбітую дарогу накіраваць вывазку смецця з горада. Рабіла б гэта прадпрыемства ачышчання горада, або Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці. Гэтакі „рамонт" дарогі нічога не каштаваў бы, дарога на вясну была б праезжай, за што ўсе сардэчна дзякавалі б Гарадскому ўпраўленню ў Гайнаўцы.

**Раса**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

## У Ягадніках будзе лепш

**АДКАЗВАЕ:**
Okręgowa Spółdzielnia Mleczarska w Hajnówce.

W odpowiedzi na notatkę pt. „Mleczarnia w Jagodnikach", przesłaną wraz z pismem z dnia 22.I.1974 r. Okręgowa Spółdzielnia Mleczarska w Hajnówce informuje, że faktycznie, w punkcie skupu mleka w Jagodnikach dość często zmieniają się zlewniarze. Przyczyną tego jest niewiara dostawców mleka w uczciwą pracę zlewniarza. Często dochodzą do tego sprawy rodzinne i sąsiedzkie. Rzeczywiście, któryś z kolei zlewniarz był nieuczciwy, co udowodniono mu i zwolniono go. Wieś Jagodniki nie jest wsią dużą. Przeciętnie w roku mleko do zlewni dostarcza około 40 dostawców, co jednak nie przypomina innych wsi w powiecie, gdzie dostawców jest więcej, natomiast mleka mniej.

Wieś Jagodniki ma bardzo dobre warunki dla rozwoju hodowli. Brak natomiast młodzieży i dlatego na zlewniarza wybiera się tam starsze osoby, które mają dużo innych obowiązków, stąd tak duża płynność w zatrudnieniu.

W celu uzdrowienia sytuacji w Jagodnikach w dniu 2.II. 74 r. odbyto zebranie POP na którym omówiono sprawę, poruszoną w notatce gazety „Niwa". POP wspólnie z Okręgową Spółdzielnią Mleczarską podjęło odpowiednie kroki w celu uzdrowienia sytuacji w zlewni mleka w Jagodnikach tak, aby w przyszłości wspomniane w notatce konflikty nie powtarzały się.

Prezes Zarządu
inż. A. Pryzowicz




**Аліна Швед — Гайнаўскі беларускі ліцэй.** Вершы надрукуем.

**Кіраўнік музычнага курсу.** Рэдакцыя можа не падпісваць вашай інфармацыі „Наймілейшая дзяўчына" вашым прозвішчам, але да ведама рэдакцыі трэба яго падаць разам з дакладным адрасам.

**Члены ЛЗС з Чэх Арлянскіх.** Ваш верш-песню надрукаваць не можам па двух прычынах: 1. Не друкуем ананімаў (трэба, каб адна асоба або група падпісаліся поўным імем і прозвішчам), 2) не друкуем вершаў на польскай мове. Пра факты, апісаныя вамі ў вершы, напішыце прозай.

**Біуро Цэх.** Вам — адказ як вышэй — ніякіх ананімаў.

**Васіль Асеннік.** „Гаспадара" надрукуем з прыемнасцю, „Хачу" таксама.

**Жыхар вёскі Лапухоўка.** Вашу крытычную інфармацыю пра тое, як гайнаўскі ПЗДЛ будуе мост, надрукавалі б хутка. Ды не падалі вы свайго імя і прозвішча да ведама рэдакцыі. Зрабіце гэта як найхутчэй.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Zimorodek" (radz.), 12—13. „Dramat zazdrości" (włoski), 14—15. „Śmiech w ciemności" (angl.), 16—17.

**Чаромха**
„Gangsterski walc" (franc.), 12—13. „Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 16—17.

**Кляшчэлі**
„Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.) 12—13. „Kanał" (polski), 14—15, „Gra" (polski), 16—17.

**Нараўка**
„Ocalenie" (polski), „Dramat zazdrości" (włoski), 13—17.

**Нарва**
„Homolkowie na urlopie" (czeski), „Pokój przechodni" (NRD), 13—17.

**Чыжы**
„Hubal" (polski), „Skok o świcie" (radz.) 13—17.

**Дубічы Царкоўныя**
„Pozwólcie startować" (radz.), „Ja wam pokażę" (NRD), 13—17.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Wynajęty człowiek" (USA), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosłowiański), 13—17.

**Райск**
„Ciepło twoich rąk" (radz), „Opętanie" (polski), 13—17.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Absolwent" (USA), 16—17.

**Міхалова**
„Najmilsza kobieta mojego życia" (CSRS) 12—13. „Posąg księżniczki Ralu" (rumuński), 14—15. „Staroświecki dramat" (radz.), 16—17.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Z tamtej strony tęczy" (polski), „Most" (jugosł.), 13—17.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Ambasadorowie nie mordują" (NRD), 12—13. „Słoń z indyjskiej dżungli" (radz.), 14—15. „Co ważne w życiu" (czeski), 16—17.

**Мілейчыцы**
„Nareszcie poniedziałek" (węgierski), 12—13. „Tygrysiątko" (bułg.), 14—15. „Godziny szczytu" (polski), 16—17.

**Мельнік**
„Lucia" (kubański), 12—13. „Pippi w kraju Taka-Tuka" (szwedzki), 14—15. „Pechowy zalotnik" (franc.), 16—17.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł. kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagraniczych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 8107 O-3



 

